



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

27 сакавіка 2020 года №13 (1300)

18+






# «З-за каранавіруса распусцілі наш круізны лайнер»

старонка 20

Аня Кішкурна на караблі, калі ён прычаліў да Багамаў. Фота забяспечанае Ганнай КІШКУРНА.

## Якім будзе новы гандлёвы цэнтр у Маладзечне

старонка 2

## На Вілейшчыне знайшлі труп жанчыны, што знікла ў студзені

старонка 4

## Сем хакеістаў «Дынама» дыскваліфікавалі на год за дамоўныя матчы

старонка 22

ISSN 1991–7155




Адсканцуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Марыла атрымаць свабоду і не выпрошваць выхадныя

**Пра тое, як рашыцца кінуць стабільную працу і рызыкнуць займацца справай сваёй мары, нам распавяла Лізавета Дубінская.**


Фота забяспечанае Лізаветай ДУБІНСКАЙ.

Ліза з рабочым інструментам.

Любоў да творчасці пачалася ў дзяцінстве. Маляваць падабалася заўсёды, у школе я пастаянна малявала. Я родам з Валожына, на жаль, там не было мастацкай школы або гурткоў. Таму малявала, як умела, як адчувала, і ў мяне гэта някепска атрымоўвалася.

### Чаму стала эканамістам

Пасля дзявятага класа вырашыла паступаць. Хацела пайсці на дызайнера або абраць нешта пра мастацтва. Але мама казала, што мастакі заўсёды бедныя, гэтым на жыццё не заробіш і што тады мая перспектыва – сядзець у якім-небудзь Доме культуры і весці гурток.

Мы з мамай вырашылі, што я пайду ў ліцэй МНС, там добрая зарплата. Пасля экзаменаў у ліцэй я не прайшла, дзяўчат набіралі вельмі мала. Вяртацца ў школу не хацела. Адзінае, куды паспела б падаць дакументы, – Маладзечанскі гандлёва-эканамічны каледж, выбрала спецыяльнасць эканаміста.

Падчас вучобы жыла ў інтэрнаце. Многія дзяўчаты хадзілі да мяне, каб запляла іх, зрабіла макіяж. Мама ўвесь час казала, што без вышэйшай адукацыі ў гэтым свеце ты нікому непатрэбны. Таму нават пытанне не стаяла, куды паступаць пасля каледжа. Вырашыла, што атрымаю запаветны дакумент і буду рабіць, што захачу.

Вучылася на завочным у Інстытуце правазнаўства на эканаміста. Сюды можна было пайсці на скарочанае навучанне, таму я і не думала мяняць кірунак.

### Паклялася, што не вярнуся ў Валожын

Працаваць я пачала ад 16 год. Спачатку гэта былі летнія падпрацоўкі ў дзіцячым садку. Пасля каледжа пераехала ў Смаргонь, дзе жыла сяброўка і малады чалавек. Я паклялася, што не вярнуся ў Валожын.

У Смаргоні ўладкавалася ў прадуктовы магазін. Знайсці працу па спецыяльнасці ў чужым горадзе было нерэальна. У краме паспявала ўсім дзяўчатам рабіць прычоскі на перапынках, часам прасілі зрабіць макіяж.

Я нядоўга працавала ў магазіне. Там вельмі не падабаліся адносіны кіраўніцтва. Выпадкова знайшла працу бухгалтара ў будаўнічай фірме. Мяне баяліся браць без досведу, але па выніку стажыроўкі пакінулі. Увесь гэты час цікавілася сферай прыгажосці для сябе, заўсёды любіла касметыку. Але і ўявіць не магла, што гэта можа быць працай.

Пайсці на курсы тады не мела магчымасці – трэба было аплачваць вучобу, сесіі, жыллё ў чужым горадзе. Да таго ж і блізкія не падтрымлівалі маё захапленне макіяжам.

### Як змяніла прафесію

Бухгалтарам адпрацавала тры гады. Апошні год было вельмі складана маральна. Мне не падабалася ўсё, адчувала, што не на сваім месцы, і з гэтым абавязкова трэба штосьці рабіць. У адзін цудоўны дзень я кінула працу, сабрала рэчы і пераехала ў Маладзечна да сястры і яе мужа.

У той момант яны мяне падтрымалі і матывавалі пайсці на курсы макіяжу. Я адвучылася з адзнакай, кіраўнік курса запрасіла ў сваю каманду візажыстаў.

У той час працавала ў цэнтры, які займаецца абзвонам. Спачатку менеджарам, пасля кіравала аддзелам продажаў. Наняла трохпакаёвую кватэру, здавала два пакоі дзяўчатам.

Вельмі ўдзячная першаму выкладчыку Ірыне. Яна навучыла мяне вельмі многаму, паказала, што прафесія неверагодна цікавая, у ёй няма абмежаванняў у развіцці і росце. Яна брала мяне на стажыроўку на паказы моды, мы рабілі макіяжы мадэлям, там набіла хуткасць. Фарбавала пакупнікоў у яе магазіне касметыкі.

### Цана перамен

На першыя курсы і мінімальны набор візажыста доўга адкладвала з зарплаты, абышлося ў 700-800 долараў. Брала шмат мадэляў, рабіла партфолія. Пасля вучылася ў Мінску. Цяпер купляю курсы анлайн, гэта зручна і больш эфектыўна. Рука ўжо пастаўленая, а новыя веды і «фішкі» лепш браць у лепшых майстроў. Зрабіць гэта праз інтэрнэт нашмат прасцей.

Напачатку сумяшчаць гэта з асноўнай працай было нескладана. Па магчымасці дакупляла касметыку, патрэбныя інструменты, ездзіла на майстар-класы. Паралельна пачала займацца бровамі – фарбаваць, мадэляваць, укладваць. На матэрыялы і навучанне на старце пайшло каля 200 долараў. Усё купляла паступова.

Спачатку было вельмі мала кліентаў. Я ведала, што гэта нармальна, не ўсё адразу. Мяне запальвалі дзяўчаты, якія сыходзілі шчаслівыя, і бачыла, што я на правільным шляху. Марыла сысці з працы, фарміраваць графік самастойна, працаваць, колькі хачу, атрымаць свабоду і не выпрошваць выхадныя і адпачынак. Калі праца ў кайф, жыццё становіцца зусім іншым.

У адзін дзень зразумела, што прайшло паўтара года пасля курсаў, я стаю на месцы і спрабую сумяшчаць працу. Першыя паўгода хапала энергіі, а пасля стамлялася. Не было часу на тое, каб весці сацыяльныя сеткі, браць мадэляў. Так што сабрала фінансавы запас на месяц і сышла з працы, змяніла жыллё. Кліентаў усё яшчэ было няшмат, але вырашыла рызыкнуць.

У пераломны момант страшна было, асабліва калі разлічваеш толькі на сябе. Разы тры хацела ўсё кінуць і вярнуцца на працу. Цяпер бачу, дзе былі мае памылкі ў прасоўванні, на што не варта было марнаваць час і грошы. Першы год быў вельмі складаны і ў маральным, і ў фінансавым плане. Трэба пастаянна ў сябе ўкладваць.

Прайшлі два гады, як я працую на сябе. Ёсць пастаянная кліенцкая база, але трэба пастаянна працаваць на паляпшэнне якасці.

### Як уладкавала працу

Кліентаў шукала спачатку праз сацыяльныя сеткі. Зрабіла сайт, які ў выніку не апраўдаў ні сіл, ні грошай. Найлепш працуюць рэкамендацыі пастаянных кліентаў і рэклама ў сацсетцы.

Колькасць заказаў заўсёды непрадказальная. Кліенты пераносяць запісы, адмяняюць або ўвогуле не прыходзяць без папярэджання. У будныя дні часцей прыходзяць на бровы, пятніца і субота – макіяж і прычоскі. Кліентаў бяру ад 11, каб высыпацца. Калі маю фортку, займаюся сацыяльнымі сеткамі, гляджу курсы, тэстую прадукты.

Толькі цяпер прыйшла да больш-менш стабільнасці ў фінансавым і эмацыйным плане, не баюся спадаў у заказах. У прафесіі неабходна пастаянна расці і вучыцца новаму.

Ад красавіка да лістапада звычайна заказаў дастаткова. Лістапад, студзень і другая палова сакавіка – заўсёды спад. Гэта неабходна ведаць, бо інакш пачынаецца дэпрэсія і крызіс непатрэбнага майстра.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Парада ад майстра

Цяпер у сферы прыгажосці ў прыярытэце натуральныя вобразы, здаровая скура, спакойныя колеры. Сярод укладак – лёгкасць і паветранасць, мёртвыя ад лака валасы даўно не актуальныя.


Стэнд праекта размешчаны ў Цэнтралізаванай клубнай сістэме.

# Што плануюць у новым гандлёвым цэнтры на Касманаўтаў

**Прэзентацыя праекта прайшла 24 сакавіка ў цэнтралізаванай клубнай сістэме Маладзечанскага раёна.**


Плануюць, што пляцоўка будучага гандлёвага цэнтра будзе выглядаць так.

З боку Маладзечанскага райвыканкама праект прадставіў намеснік начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва **Андрэй Шаўцоў**. Ён паведаміў, што, паводле генплана, месца меркаванага гандлёвага цэнтра адводзілі пад аб'екты грамадскага значэння. Таварыства «Віталюр» прапанавала размясціць тут гандлёвы цэнтр.

Цяпер на месцы магчымага ў будучым гандлёвага цэнтра аўтадром. Будынак па адрасе Касманаўтаў, 8-б паставяць фасадам да вуліцы Касманаўтаў, за пляцоўкай застаецца гаражны кааператыў.

## Як далучыцца да абмеркавання

Грамадскае абмеркаванне стартавала 21 сакавіка, яно працягнецца да 14 красавіка. Прачытаць тлумачальную запіску можна на сайце Маладзечанскага райвыканкама. Прэзентацыйны стэнд будзе размешчаны ў фае клубнай сістэмы па вуліцы Лібава-Роменская, 71 да 4 красавіка ад 8 да 20 гадзін па рабочых днях.

Дасылаць заўвагі і прапановы можна да 14 красавіка ў райвыканкам на адрас: 222310, Віленская, 6. Тэлефон (8-0176) 77-16-63, факс 77-15-71. E-mail: molrik@molodechno.minsk-region.by.

Пасля 14 красавіка горадабудаўнічы савет падвядзе вынікі грамадскага абмеркавання і разгледзіць заўвагі і прапановы.

## 2,8 мільёна рублёў інвестыцый

«Віталюр» заказаў праект у таварыства «ТамерланБудПраект». Прадстаўнікі арганізацыі распавялі падрабязней пра будучы аб'ект.

Праект стандартны, падобныя гандлёвыя аб'екты пабудавалі ў некалькіх іншых гарадах, нядаўна адкрылі цэнтр у Барысаве.

У будынку будзе плошча для арандатараў, вялікая гандлёвая зала і тэхналагічны аддзел. На стаянку будзе заезд з поўначы і поўдня. Паводле тлумачальнай запіскі, плануюць размясціць 86 машына-месцаў, з іх чатыры для кіроўцаў з інваліднасцю. Вакол паркоўкі зробяць добраўпарадкаванне і азеляненне.

Агульная плошча будынка 1688 квадратаў, з яе гандлёвая плошча складае 932 квадраты. Аддзелка будынка будзе з вандаластойкіх металакасет. Плануюць адзін вялікі ўваход і тры ўваходы ў гандлёвую залу, два ў тэхналагічную зону.

Тэарэтычна нарматывы ў праекце вытрыманыя. Нарматыўны тэрмін будаўніцтва складае 11 месяцаў, але аналагічны аб'ект у Барысаве ўзвялі за 7,5 месяца. Дакладны кошт аб'екта не разлічвалі. Вядома, што барысаўскі выйшаў у 2,8 мільёна рублёў. Такім чынам плануюць, што Маладзечанскі раён атрымае не менш за 2,8 мільёна інвестыцый.

## 96 працоўных месцаў

Назва будучага гандлёвага цэнтра пакуль не зацверджаная. Магчыма, яго назавуць «Віталюр».

Вялікая гандлёвая зала разлічаная пераважна на продаж самых розных прадуктаў, знойдзецца месца і таварам для дома. На пляцоўцы перад гандлёвай залай будзе шэраг арандатараў, напрыклад, аптэка, зоамагазін, кавярня, мабільныя аксесуары. Уладкуюць банкаматы.

Без уліку арандатараў у цэнтры з'явіцца 96 працоўных месцаў.

Цэнтр будзе працаваць ад 9 да 23 без выхадных.


Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.03 | 26.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4413 | **2.5789** |
| Еўра | 2.6540 | **2.7904** |
| Злоты, 10 | 5.9860 | **6.0996** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1575 | **3.3242** |
| Грыўня, 100 | 8.9325 | **9.2310** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **18.03** | **25.03** |
| Еўра | 2.6600/2.7600 | **2.7500/2.8800** |
| Долар ЗША | 2.4400/2.5200 | **2.5500/2.6500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 18.03 | 25.03 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,88 | **22,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,78 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,80 | **15,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,90 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,95** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **4,90** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Радыс, пучок | 2,50 | **5,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **8,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 12,00 | **13,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімон, 1 кг | 4,30 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,90** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 5,50 | **7,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,85 | **2,20** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Арганізацыя перавяла махлярам 40 тысяч еўра

АШМЯНЫ

Махляры падрабілі электронную пошту і выманілі ў арганізацыі з Ашмянаў больш за 40 тысяч еўра.

У студзені махляры ўзламалі электронную пошту адной з арганізацый Ашмянскага раёна, а потым падрабілі гэту электронку – назва адрозніваласяя ад рэальнай нязначна.

Беларуская кампанія не сумнявалася ў сапраўднасці пошты, таму зрабіла перадаплату за тавар 40 тысяч еўра. Для пацвярджэння плацяжу прадстаўнік арганізацыі звязалася з замежнай фірмай, даведалася, што падобны плацеж ім не паступаў і што высланыя ў адрас плацельшчыка рэквізіты рахунка ім не належаць.

Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу па частцы 4 артыкула 209 Крымінальнага кодэкса – махлярства, здзейсненае ў асабліва буйным памеры – і частцы 2 артыкула 349 Крымінальнага кодэксу – несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі, зроблены з карыслівай зацікаўленасці.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Знайшлі труп жанчыны, што знікла зімой

ВІЛЕЙКА

Увечары 24 сакавіка ў вёсцы Абадоўцы Ільянскага сельсавета знайшлі труп жанчыны без прыкмет гвалтоўнай смерці.

Ён ляжаў на двары аднаго з нежылых дамоў у вёсцы. Як паведамілі ў Вілейскім РАУС, усталявілі, што гэта 79-гадовая жыхарка Ілы, якая знікла зімой.

Нагадаем, што 24 студзеня раніцай лёгка апранутая жанчына выйшла з дому па 17 Верасня ў Ілы і знікла. Яе шукала міліцыя Вілейкі і валанцёры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Наведніку кафэ не далі выпіць на вэксаль. І ён разбіў касу

ВАЛОЖЫН

Апоўначы ў міліцыю Валожына звярнуліся з кафэ ў Івянцы і паведамілі, што разбушаваўся адзін з наведнікаў.

На месца здарэння выехала следча-аператыўная група. Міліцыянеры высветлілі, што беспрацоўны мясцовы жыхар, раней судзімы, прыйшоў у кафэ нецвярозы.

Кліент захацеў, каб яму далі алкаголь у доўг. Мужчыну адмовілі. Той пачаў абурацца, патрабаваў напой. А грошы абяцаў прынесці ў наступны раз.

Пасля катэгарычнага адмаўлення раней судзімы стукнуў па касе кулаком. Дэбашыр паралізаваў працу ўстановы, нанёсшы страт на 600 рублёў. Дзяўчына-касір самастойна затрымала нецвярозага наведніка да прыезду міліцыі.

**Паводле МУС.**




Смаргонскія знаходкі.

# У хляве знайшлі пісталет часоў Першай сусветнай

СМАРГОНЬ

**Іспанскі пісталет часоў Першай сусветнай вайны знайшоў на сваім участку жыхар Смаргоні.**

Мужчына нядаўна набыў участак у горадзе. У адзін з дзён разбіраў гаспадарчую пабудову і знайшоў паміж сценамі стары пісталет. Пра гэта ён паведаміў у міліцыю. На месца выехала следча-аператыўная група.

Знаходкай аказаўся іспанскі пісталет Vencedor, які быў на ўзбраенні ў французскіх салдат падчас Першай сусветнай вайны.

Акрамя таго, на месцы былі выяўлены два магазіны з 12 патронамі, распавялі ў міліцыі. Аб'екты паступілі на балістычную экспертызу ў Гродзенскі міжраённы аддзел Дзяржкамітэта судэкспертыз. Як устанавілі эксперты, выраблены ў Іспаніі пісталет з'яўляецца наразной агнястрэльнай зброяй калібру 7,65 мм. Зброі больш за сто гадоў, на экспертызу яна паступіла ў няспраўным стане. Тым не менш, страляць з гэтага пісталета можна. Толькі адзін з патронаў выраблены заводскім спосабам, астатнія – саматробныя.

Цяпер супрацоўнікі Смаргонскага РАУС праводзяць праверку па гэтым факце.

**Паводле УУС Гродна.**

## Каб спыніць пажар у гаражы, выратавальнікі дэмантавалі вароты

ВІЛЕЙКА

22 сакавіка вілейскім выратавальнікам паведамілі, што гарыць гараж у Макаўі.

Калі выратавальнікі прыехалі, з блочнага гаража, прыбудаванага да дома, ішоў дым. Памяшканне было зачыненае, таму выратавальнікі з дапамогай спецыяльных інструментаў дэмантавалі металічныя вароты.

Пажар патушылі. Агонь пашкодзіў драўляную абшыўку ў гаражы, дах і крыху заднюю частку аўтамабіля «Фіят», які там стаяў.

Спецыялістам стала вядома, што пажар пачаўся ў куце пабудовы.

Па словах уласніка дома і гаража, у доме ніхто не жыве. Ён яшчэ будуецца. Напярэдадні гаспадар паставіў аўтамабіль у гараж для рамонту. Па факце праводзяць праверку, расказаў карэспандэнту старшы інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Яўген Камароў**.

Вілейскі РАНС нагадвае аб правілах пажарнай бяспекі:

Не выкарыстоўвайце ў гаражах печкі і катлы.

Перад тым як выкарыстоўваць электрапрыборы, чытайце інструкцыю.

Не пакідайце электрапрыборы без нагляду.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Даўгінаве апоўначы гарэла лазня

ВІЛЕЙКА

Пра пажар у Даўгінаве вілейскім выратавальнікам паведамілі 20 сакавіка каля апоўначы. Сказалі, што гарыць пабудова ў прыватным двары.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, гарэла лазня, накрытая шыферам. Вядома, што ў памяшканні была электрычнасць і што напярэдадні лазню не прапальвалі.

У выніку пажару згарэў дах на плошчы тры квадратныя метры, пашкоджаныя сцены і маёмасць.

Прычынай пажару магло стаць вуголле, пакінутае без нагляду. З вечара гаспадары вынеслі вядро з вуголлем з печкі і пакінулі ў прыбудове да лазні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчыну здалося, што гарыць бальніца. Ён патэлефанаваў на 101

АСТРАВЕЦ

Днямі жыхар Астраўца патэлефанаваў у службу 101 і паведаміў, што гарыць новая бальніца.

На выклік выехалі выратавальнікі, міліцыя, аварыйныя брыгады газавай службы і электрасетак. Акрамя таго, улічваючы важнасць аб'екта, на тушэнне пажару ў Астравец прыбылі пажарныя разлікі са Смаргонскага раёна.

Правёўшы абследаванне будынка новай бальніцы, выратавальнікі не выявілі ўзгарання.

Тады сталі шукаць таго, хто тэлефанаваў. Ім аказаўся пажылы мужчына, які жыве непадалёк ад старога будынка бальніцы. Высветлілася, што ён быў п'яны і яму здалося, быццам іскрыць электрашчыток медустановы.

Астраўчанін праявіў пільнасць (як аказалася пазней, залішнюю) – і патэлефанаваў на 101, паведаміўшы пра пажар.

Справу перадалі ў суд. Дзеянні астраўчаніна не прызналі наўмыснымі.

**Паводле ostrovets.by.**

## У Красным невядомы кіроўца збіў пешахода. ДАІ шукае сведкаў

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя адбылася 6 сакавіка каля апоўначы ў Красным.

Невядомы кіроўца на неўсталяваным аўтамабілі ехаў па вуліцы Чысцінскай у напрамку вуліцы 1 Мая. Тут ён наехаў на 67-гадовага пешахода, які ішоў уздоўж правага краю праезнай часткі дарогі. У пешахода – цялесныя пашкоджанні, расказаў старшы інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

ДАІ просіць сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Тамары Дудко, 1-18** або па тэлефонах: **(8 0176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пайшоў на працу і знік. Міліцыя шукае маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі РАУС і пошукавы атрад «Анёл» шукаюць маладзечанца Андрэя Валер'евіча Абановіча.**



19 сакавіка ў 6:30 мужчына пайшоў на працу з Велікасельскай, 32-а, дзе жыве. Да сёння яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** рост 170 сантыметраў, худы, шатэн з зялёна-карымі вачыма.

**Асобыя прыкметы:** татуіроўка на правым плячы, за правым вухам шоў ад аперацыі, левая нага – са слядамі хірургічных спіц.

**Быў апрануты** ў сіне-блакітныя джынсы, зялёную куртку, сінюю байку на «маланцы», чорныя туфлі.

Каму вядомае месцазнаходжанне Андрэя Валер'евіча Абановіча, паведамляйце па тэлефонах: **(8 025) 959-36-48, (8 029) 181-71-29** або **102.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Маладзечанец гатовы даставіць тавары з крамаў і аптэк. Бясплатна

**Маладзечанец Дзмітры Карповіч – выпускнік БДУ. Сёння ён беспрацоўны. Чакае службы ў войску. Падчас пандэміі хлопец вырашыў дапамагчы тым, хто мае патрэбу. Дзмітры гатовы бясплатна дастаўляць жыхарам Маладзечаншчыны прадукты, лекі і ўсё неабходнае.**

МАЛАДЗЕЧНА

– Цяпер – пандэмія каранавіруса. Гэта цяжкі час для ўсіх людзей. Я лічу, што мы павінны падтрымліваць і дапамагаць тым, каму гэта неабходна. Многім людзям цяпер цяжка, ім боязна выйсці ў краму. Службы дастаўкі ежы перагружаныя. Усім не хапае персаналу і магчымасці. Што ж рабіць?

**У сувязі з гэтым я прапаную свае паслугі ў якасці кур'ера, – расказаў Дзмітры карэспандэнту.**

Вы можаце звярнуцца да хлопца і папрасіць прывезці прадукты з крамы або лекі з аптэкі. Дастаўка – за кошт кур'ера.

Пры атрыманні вы аплачваеце па чэку толькі прадукты.

### Каму гэта трэба

Сталым людзям.

Людзям з інваліднасцю.

Маці або бацьку, якія адны гадуюць дзяцей.

Людзям, якія панічна баяцца выходзіць на вуліцу.

Медыцынскім работнікам. Дзмітры гатовы даставіць ежу на месца працы.

– Я распаўсюдзіў інфармацыю праз сваіх знаёмых у сацсетках. Але не ўсе людзі з гэтых катэгорый карыстаюцца сацсеткамі, – адзначае Дзіма. – Таму я і звярнуўся ў ваша выданне – крыніцу, якой давяраюць і якую чытаюць, у тым ліку і людзі ва ўзросце. Ініцыятыве толькі пару дзён. Замоў пакуль не было, але, спадзяюся, хутка з'явяцца.

### Як зрабіць замову

Тэлефануйце на нумар **(8-044) 569-78-09.** Кажыце, што вам трэба, або дасылайце спіс. Хлопец удакладніць падрабязнасці. Калі трэба,ператэлефануе з крамы.

Прадукты вам данясуць да дзвярэй. Вы праверыце, ці ўсе тавары ёсць.

### Што нельга замовіць

Цыгарэты;
алкаголь;
рэцэптурныя лекі.

### Колькі каштуе

Прадукты вы аплачваеце па чэку з крамы. Дастаўка – бясплатная.

– Буду рады, калі ў горадзе знойдуцца людзі, якія пагодзяцца развозіць прадукты на бязвыплатнай аснове. Мы можам аб'яднацца і дапамагчы людзям разам, – падсумаваў Дзмітры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота са старонкі vk.com/karpovich_dima.

Дзмітры Карповіч.

# Не пакрыўдзіць, пераканаць, раскрыць здольнасці вучняў

## Педагогі санаторнай школы-інтэрната расказалі пра сваю працу

**Як кожнаму дзіцяці праявіць свае творчыя здольнасці? Ці можна зрабіць твору са школьнай праграмы такую рэкламу, каб у дзяцей гарэлі вочы? Як быць для вучня і мамай, і татам, і настаўнікам, і доктарам? Адказы ведаюць педагогі Маладзечанскай санаторнай школы-інтэрната.**

МАЛАДЗЕЧНА



**Алена Уладзіміраўна Прывалава** працуе тут педагогам-арганізатарам 15 гадоў.

– Я сама з Гродзеншчыны, са Шчучынскага раёна. Вучылася ў музычнай школе, іграла на баяне. Прыйшоў час паступаць, бацька адвёз у Гродзенскае педвучылішча, – расказвае настаўніца пра ўласны шлях у педагогіку.

Ад 1983 года 19-гадовая настаўніца пачала працаваць у Войстамскай школе на Смаргоншчыне, дзе дырэктарам быў **Уладзімір Андрэевіч Ляговіч**, яе сённяшні кіраўнік.

– Пачынала старшай піянерважатай і настаўніцай музыкі. Трапіла ў добры калектыў. Разам працавалі, адзначалі ўсе святы. З дзецьмі збіралі макулатуру, металалом і нават кароў даілі ў мясцовай гаспадарцы. Мультымедыйных сродкаў не было, таму шмат малявалі. Досвед, набыты ў Войстамскай школе, патрэбны мне і цяпер, – кажа Алена Уладзіміраўна.

У школе педагог-арганізатар працуе з грамадскімі аб'яднаннямі, ладзіць святы і акцыі.

– Кожны панядзелак у нас – круглы стол. Збіраю старастаў класаў. Абмяркоўваем, што адбылося за тыдзень, плануем, чым будзем займацца, – дзеліцца педагог.

Разам з настаўніцай гартаем папкі і альбомы. У іх – фотаздымкі са шматлікіх актыўнасцяў: вось тут – наведвалі ветэрана, тут – прыбіралі мемарыял, а тут старэйшыя ладзілі гульню для малодшых.

У Алены Уладзіміраўны прынцып: кожнаму вучню даць магчымасць праявіць свае творчыя здольнасці, паўдзельнічаць у калектыўнай справе. Дзеці ў школе-інтэрнаце часта мяняюцца: адны прыязджаюць, іншыя, паправіўшы здароўе, едуць дамоў. А на памяць пра школу-інтэрнат вязуць на флэшках фотаздымкі, фільмы і кліпы, падрыхтаваныя творчай настаўніцай.



**Анастасія Пятроўна Ралавец** вучыць дзяцей беларускай мове і літаратуры. У родны горад вярнулася пасля заканчэння БДПУ імя Максіма Танка ў 2001 годзе. Кажа, што настаўнічала з дзяцінства:

– У мяне ёсць дзве малодшыя сястры. У першы клас яны ішлі ўжо добра падрыхтаваныя мной: умелі чытаць і пісаць. А мяне называлі Анастасіяй Пятроўнай. Так і сёння называюць вучні.

Любоў да педагогікі ў суразмоўцы ад бабулі **Зінаіды Бяловай**. Тая ўсё жыццё адпрацавала ў дашкольнай адукацыі. Настаўніца прызнаецца, што ў іншай прафесіі сябе не бачыць. Аднолькава любіць і малодшых школьнікаў, і старэйшых. Першых – за адкрытасць і непасрэднасць. Другіх – за тое, што з імі можна размаўляць як з дарослымі. Кажа, дзіцячыя клопаты ёй блізкія і цікавыя, бо самі з мужам гадуюць сына і дачку.

А яшчэ Анастасія Пятроўна ведае, як захапіць дзяцей чытаннем твораў беларускай літаратуры:

– Трэба правільна прарэкламаваць твор: расказаць пачатак, пару яркіх момантаў – і вось у дзяцей ужо загараюцца вочы. Карыстаюся буктрэйлерамі – відэаролікамі, у якіх займальна распавядаецца змест кнігі. Расказваю цікавыя звесткі з жыцця пісьменніка, паказваю мастацкія фільмы, знятыя па творах або дакументальнае кіно пра пісьменнікаў.

Ад такой рэкламы дзеці не толькі гатовыя прачытаць школьны твор, а нават іншыя творы пісьменніка. І калі з 20 чалавек атрымліваецца зацікавіць хаця б пяць, Анастасія Пятроўна лічыць, што яе праца праходзіць недарма.



**Святлана Георгіеўна Багушэвіч** па спецыяльнасці – настаўнік нямецкай мовы. Гэтыя веды ёй патрэбныя падчас замены і дапамогі вучням пры самападрыхтоўцы. Асноўная ж яе прафесія ўжо чацвёрты год – выхавальнік. З дзецьмі яна – да пачатку урокаў і пасля іх.

Родам Святлана Георгіеўна з вёскі Ігнатава, што на Валожыншчыне. У гэтым раёне, у Вайганаўскай школе, пачынала працаваць. Пасля было некалькі год працы на Ашмяншчыне.

Кажа, замежная мова яшчэ са школы давалася лёгка. Таму і абрала спецыяльнасць. Падабалася і тое, як ставяцца ў вёсцы да настаўніка – як да святога чалавека, няйначай.

– У школе-інтэрнаце мы дзецям і за маму, і за тату, і за настаўніка, і за доктара, – лічыць педагог. – Праца нялёгкая, адказная. Да кожнага шукаеш падыход, стараешся не пакрыўдзіць, пераканаць. Прывучаем да рэжыму, выканання правіл асабістай гігіены, – расказвае Святлана Георгіеўна.

А яшчэ педагог прызнаецца, што дома, з уласнымі дзецьмі, яна таксама заўсёды была настаўніцай:

– Абавязкова штодзень хвілін па 15 чыталі казкі на беларускай мове, пісалі пад дыктоўку замежныя словы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) 53-78-04, 8 (029) 676-84-20.
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) 2-11-40.
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) 7-56-17.
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) 6-13-85.
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) 2-00-83, 2-01-03; вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) 5-52-33, 5-55-39.
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) 5-52-66, 5-57-65.
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) 4-47-16


## ВІНШАВАНКА

**Уладзіміру ПАПКОВІЧУ, члену Саюза беларускіх пісьменнікаў, перакладчыку і паэту**

Шаноўны наш зямляк, Уладзімір Антонавіч! Сардэчна віншуем Вас з 85-годдзем! Памятаем Вас, ганарымся Вамі і зычым усяго толькі найлепшага.

*Вы пражылі нямала год,*
*Яшчэ Вам столькі ж*
*мы жадаем,*
*Здароўя Вам*
*і менш няўзгод,*
*І хай ўдача Вам*
*заўжды спрые!*

**Землякі Доўнары, Куляшы, Булахі, Раткевіч.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Нісан-Прэм'ера, 1999 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 5080447.*
- ФВ-Пасат В-5, 1998 г.в., 1,8 газ-бензін, белы, седан. 8300 рублёў. Т. (8-029) 7005041.
- Форд-Эскорт, 1990 г.в., на хаду. Т. (8-01771) 46439.
- Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*
- Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*
- Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*
- Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706,(8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- **2-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў МІНСКУ. Т. (8-029) 3110005.**
- 4-пакаёвая кватэра ў раёне «Зеніта», а/м Mitsubishi Space Wagon , 1998 г.в. Т. (8-025) 9529391.
- Дача ў в. Прынта Вілейскага раёна, добрыя умовы, дагледжаны ўчастак. Т. (8-029) 7005176.
- Дача ў Лазаўцы, кааператыў «Крышталь-2009». Т. (8-029) 2644252.*
- Дача ў СТ «Фазэнда» Мясоцкага с/савета. Т. (8-029) 3631225, (8-029) 2514805.
- Дом 53 кв. м, 6 сотак, побач лес, рака, Вілейскае вадасховішча, Стаўкі. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5768658.*
- Дом 90 кв.м з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Шчапанавічы Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці. Т. А1 (8-029) 9664572 Вайбер.
- Дом з участкам каля возера Рудакова. Рэно-Твінга, 1994 г.в. Т. МТС (8-029) 5305446.
- Дом недабудаваны на ўскрайку Астраўца. Побач возера, лес. Т. (8-029) 5322793.*
- Дом у вёсцы Більцавічы Вілейскага раёна, 25 сотак, гаспадарчыя пабудовы. Т. МТС (8-029) 7674753 Вольга.*
- Дом у вёсцы Пекары Маладзечанскага раёна. Т. (8-044) 5505635.*
- Дом у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7667446.*
- Дом у Маладзечне, драўляны, 72 кв. м, вада, газ, электрычнасць, мясцовая каналізацыя, 11 сотак, 53 000 рублёў, торг магчымы. Т. (8-029) 7562992.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

- Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*
- «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*
- Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Трактар Т-40 з дакументамі. Т. (8-029) 8658044.

**Бытавая тэхніка**

- Пральная машына-аўтамат Candy, як новая, нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

- Пчолы з вуллямі. Т. (8-029) 3631225, (8-025) 2514805.
- Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі чыстакроўныя. Т. (8-029) 9106184.*

**Іншае**

- Дровы – бяроза, 2 машыны. Самавываз. Вілейскі раён, в. Нясцёркі. Т. (8-033) 6915981.*
- Намаграснік Баро, памеры 195 на 120, таўшчыня 4 см. Т. (8-01771) 39721, (8-029) 5717517.
- **УНІВЕРСАЛЬНЫ ФУГАВАЛЬНЫ ВАЛ, НОВЫ. Т. (8-029) 9430353.***

### КУПЛЮ

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |



# Жыхарка Чысці паўдзельнічала ў кастынгу «X-Factor»

МАЛАДЗЕЧНА

**14-15 сакавіка ў Гродне правялі першы кастынг вакальнага шоу «X-Factor». У ім удзельнічала жыхарка Маладзечаншчыны, старшыня маладзечанскай украінскай суполкі «Краяны» Ясенія Мікуліч.**

– На «X-Factor» у Гродна я ехала як салістка і як старшыня суполкі «Краяны». Спявала дзве песні: адну на украінскай мове, другую – на рускай, акапэльна, – расказала Ясенія карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».

Па словах Ясеніі, журы ўхваліла яе выступленне. А спявачка **Іскуі Абалян** напісала станоўчы водгук пра выступленне Ясеніі Мікуліч у інстаграме. Таму ўдзельніца спадзяецца, што па выніках кастынгу пройдзе далей.

Суразмоўца прызналася, што хвалявалася. Але яе падтрымлівала сям'я: прыйшлі сын, нявестка і ўнучка, якія жывуць у Гродне. І самой Ясеніі, і яе сям'і конкурс спадабаўся. А маленькай унучцы найбольш, бо дзяўчынцы надарылі шмат сувеніраў.

– Цяпер з надзеяй будзем чакаць мая, – кажа Ясенія. – Бо тады стане вядома, хто прайшоў далей.

«X-Factor» стартаваў у Вялікабрытаніі ў 2004 годзе пад кіраўніцтвам прадзюсара Саймана Коуэла. Праект рэалізавалі ў 56 краінах, а ў тэлеэфіры яго паглядзелі больш за 500 мільёнаў чалавек. Многія ўдзельнікі шоу пабудавалі паспяховую артыстычную кар'еру.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечана гераіняй публікацыі.

Ясенія Мікуліч на кастынгу ў Гродне.

## Што трэба ведаць пра выплату страхавых унёскаў за мінулы год

**Абавязковыя страхавыя ўнёскі неабходна было выплаціць не пазней за 1 сакавіка гэтага года.**

Калі дзейнасць вялі ўвесь год, для ІП, адвакатаў, натарыусаў мінімальны памер унёскаў за 2019 год – 1386 рублёў. Для самазанятых асоб мінімальны памер унёскаў за гэты ж перыяд – 1148,40 рубля.

Калі ёсць перыяды, у якія ІП, адвакаты натарыусы або самазанятыя грамадзяне не працавалі, неабходна разлічыць суму унёскаў з улікам гэтых перыядаў. Калькулятар для разліку размешчаны на сайце фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

Выплата абавязковых страхавых унёскаў гарантуе ўключэнне перыядаў дзейнасці ў страхавы стаж для прызначэння пенсіі. У адпаведнасці з заканадаўствам, пенсіі прызначаюць, калі ёсць мінімальны страхавы стаж. У 2020 годзе – гэта 17 з паловай гадоў.

Перыяды ажыццяўлення і неажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці, сумы абавязковых страхавых унёскаў адлюстроўваюцца плацельшчыкам самастойна ў індывідуальных звестках па форме персаніфікаванага ўліку (форма ПУ-3) і падаюцца ў органы фонду. Пасля звесткі заносяць у індывідуальны асабовы рахунак застрахаванай асобы.

Індывідуальныя звесткі па форме ПУ-3 неабходна падаць не пазней за 31 сакавіка 2020 года. Для запаўнення формы ПУ-3 неабходна выкарыстоўваць праграмны комплекс (ПК) «Увод ДПУ», прызначаны для падрыхтоўкі дакументаў персаніфікаванага ўліку і наступнай іх падачы ў орган фонду. ПК «Увод ДПУ» размешчаны на сайце фонду ў раздзеле «Праграмнае забеспячэнне».

Форма ПУ-3 можа быць пададзеная адным са спосабаў:

– інспектару фонду (па месцы пастаноўкі на ўлік) у электронным фармаце ў выглядзе файла txt (у тым ліку можа падавацца форма ПУ-3 на папяровым носьбіце, падпісаная ўласнаручна);

– праз асабісты кабінет падаткаплацельшчыка на карпаратыўным партале фонду (адрас http://portal2.ssf.gov.by) у выглядзе электроннага дакумента, завеанага электронным лічбавым подпісам.

**Заўвага:** пры адсутнасці запазычанасці па выплаце абавязковых страхавых унёскаў, на партале можна падаць формы ПУ-3 у аўтаматызаваным рэжыме.

### Спрошчаны спосаб

Важна ведаць пра спрошчаны спосаб падачы формы ПУ-3. ІП, адвакатам, натарыусам у выпадку выплаты абавязковых страхавых унёскаў у памеры 1 386 рублёў да 1 сакавіка 2020 года індывідуальныя звесткі па форме ПУ-3 запаўняюцца інспектарам фонду.

Калі няма запазычанасці па выплаце абавязковых страхавых унёскаў (з улікам ільготных перыядаў: праца па дамове, вучоба (статус студэнта), атрыманне пенсіі (статус пенсіянера) індывідуальныя звесткі па форме ПУ-3 запаўняе інспектар фонду. Усе льготныя перыяды, за выключэннем працы па працоўнай дамове, пацвярджаюцца адпаведнымі дакументамі ў орган фонду.

Таксама інспектар запаўняе ПУ-3 па самазанятых грамадзянах, калі ўнёскі выплачваюцца да 1 сакавіка ў памеры 1 148,40 рубля.

Калі плацельшчык своечасова не падасць форму ПУ-3, то пасля 31 сакавіка яго прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з артыкулам 23.16 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Кансультацыю па запаўненні можна атрымаць у раённым аддзеле Мінаблкіравання фонду.

Таксама можна звяртацца ў шматфункцыянальны цэнтр абслугоўвання. Тэлефон: **8 (017) 352-05-01** або на электронны адрас – kao@minsk.ssf.gov.by.

**Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.**

# Знайдзі чацвёртае лішняе

| Тэлефоны | 101 | 104 | 107 | 112 |
|---|---|---|---|---|
| Машыны | | | | |
| Вопратка | | | | |
| Пажарны шчыт | | | | |

## З'яднайце прыродныя катаклізмы і дзеянні, якія павінны зрабіць чалавек у выпадку іх узнікнення

| Навадненне | Смерч, ураган, бура | Лясны пажар | Навальніца |
|---|---|---|---|
| **А.** Выходзьце з небяспечнай зоны хутка, перпендыкулярна руху стыхіі. Калі гэта немагчыма, то ўвайдзіце ў вадаём або накрыйцеся мокрым адзеннем, адпраўляйцеся на адкрытую прастору або паляну. Дыхайце паветрам каля зямлі, рот і нос пры гэтым захініце ватна-марлевай павязкай або хусткай. | **Б.** Хутчэй ідзіце дадому, зачыніце вокны, дзверы, коміны і вентыляцыйныя адтуліны. Не распальвайце печ. Не ўключайце электрапрыборы, не размаўляйце па тэлефоне. Знаходзьцеся далей ад электраправодкі, вадасцёкаў, дахаў, вокнаў. | **В.** Зачыніце вокны і дзверы, да прыбыцця дапамогі знаходзьцеся на верхніх паверхах і дахах будынкаў, на дрэвах або іншых высокіх прадметах. Пры гэтым пастаянна падавайце сігнал бедства: днём – вывешваннем чырвонай тканіны, у цёмны час – светлавым сігналам перыядычна голасам. | **Г.** Уключыце радыёпрыёмнік для атрымання інфармацыі, па магчымасці знаходзьцеся ў заглыбленым месцы, у склепе. Калі стыхія заспела вас на вуліцы, трымайцеся як мага далей ад старых пабудоў, будынкаў, мастоў, ліній электраперадач, дрэў, рэк, азёр і прамысловых аб'ектаў. Для абароны ад абломкаў і шкла выкарыстоўвайце лісты фанеры, кардонныя і пластмасавыя скрыні, дошкі. Старайцеся як мага хутчэй схавацца ў глыбокіх схованках. |

## Вогненныя рэбусы

1

З = Л

2

3

Ё = Ь

4

**Адказы:** 1. Запалкі. 2. Пажар. 3. Вогнішча. 4. Выратавальнік.

Падрыхтавала Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі ГРАНС.

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Алег Янкоўскі



Фота iz.ru.

**Нарадзіўся 23 лютага 1944 года ў горадзе Джэзказган, Казахстан. З'яўляецца адным з самых знакамітых акцёраў у савецкі час. Стаў народным і заслужаным артыстам СССР.**

## Дзяцінства

Бацька, Іван, да Кастрычніцкай рэвалюцыі служыў штабс-капітанам лейб-гвардыі Сямёнаўскага палка. У савецкі час яго рэпрэсавалі, ён загінуў у лагеры. Маці, Марына, вывучылася на бухгалтара і адна карміла сям'ю: трох сыноў і сваю маці.

З часам Янкоўскія перабраліся ў Саратаў. Старэйшы з братоў, Расціслаў, стаў акцёрам і пераехаў у Мінск. З сабой ён забраў да сябе 14-гадовага Алега. У Мінску Янкоўскі ўпершыню дэбютаваў на сцэне – эпізадычная роля хлопчыка ў спектаклі «Барабаншчыца».

## Дзіўная гісторыя з паступленнем у вучылішча

Пасля Мінска Алег Янкоўскі вярнуўся у Саратаў, каб паступіць у тэатральнае вучылішча. Ён прыйшоў у той час, калі экзамены скончыліся. Але зайшоў да дырэктара, каб даведацца пра ўмовы прыёму на будучыню. Дырэктар спытаў яго прозвішча, а калі дазнаўся, што ён Янкоўскі, то залічыў без экзаменаў.

Праз некалькі месяцаў высветлілася, што яго другі брат, Мікалай, хацеў паступаць у тэатральны. Ён пайшоў паступаць туды, нікому не сказаўшы пра гэта. Здаў усе экзамены, прайшоў усе туры. А калі даведаўся, што Алега ў вучылішчы прынялі за яго, прамаўчаў. Маўляў, хай вучыцца малодшы, а яму трэба карміць сям'ю – маму і бабулю.

## Далейшая кар'ера

У 1965 годзе Алега залічылі ў трупу Саратаўскага драматычнага тэатра. Упершыню ў кіно сыграў у фільме «Шчыт і меч». Дзякуючы ролі Генрыха Шварцкопфа ў фільме «Шчыт і меч» і наступнай карціне «Служылі два таварышы» Янкоўскі стаў папулярным артыстам. У 1973 годзе яго прынялі ў трупу Маскоўскага тэатра. У 1983 годзе Андрэй Таркоўскі запрасіў Янкоўскага ў «Настальгію».

У пачатку 1990-х Янкоўскі вярнуўся з Францыі, дзе паўгода ўдзельнічаў у еўрапейскім тэатральным праекце. У 1993 годзе стаў прэзідэнтам адкрытага Расійскага кінафестывалю ў Сочы «Кінатаўр». У 1999 годзе сыграў невялікую ролю местачковага яўрэя ў меладраме Салі Потэр «Чалавек, які плакаў» разам з такімі зоркамі, як Джоні Дэп і Джон Туртура. Гэты фільм паказвалі ў афіцыйнай праграме Венецыянскага фестывалю.

У канцы 2008 года дактары знайшлі ў акцёра рак падстраўнікавай залозы на апошняй стадыі. Лячыўся ў Германіі, але лячэнне не дапамагло, таму Янкоўскі вярнуўся ў Маскву. 10 красавіка 2009 года ён адыграў свой апошні спектакль «Жаніцьба». Пайшоў з жыцця 20 мая 2009 года ў адной з маскоўскіх клінік пасля хваробы.

## Асабістае жыццё

У сямейным жыцці Алег Янкоўскі быў аднальюбам. Ён ажаніўся на другім курсе вучылішча з Людмілай Зорынай. Пасля вучылішча Людмілу адразу запрасілі ў Саратаўскі драмтэатр, і яна імгненна стала зоркай. Але Людміле дзеля мужа прыйшлося ахвяраваць сваёй кар'ерай. Яна кінула ўсё і рушыла ўслед за ім у Маскву. У Янкоўскага і Зорынай нарадзіўся сын Філіп, які стаў акцёрам і рэжысёрам.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 МАРТА

**7.00, 15.50, 18.20, 21.00, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.15, 16.00** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.35, 15.55, 18.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«НЕВОЗМОЖНОЕ».**
**9.40, 20.00** Т/с **«ТЬМА».**
**10.30** Д/ф «НАША ПЛАНЕТА».
**11.20** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**12.55** «Доктор отвечает».
**13.00, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.40** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.30** Х/ф **«451 ПО ФАРЕНГЕЙТУ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Герои комиксов на экране». «Новая эра».
**23.00** Х/ф **«12 ОБЕЗЬЯН».**

### ВТОРНИК, 31 МАРТА

**7.00, 15.40, 18.15, 21.05, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.30, 16.25, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ХРОНИКИ ХИЩНЫХ ГОРОДОВ».**
**9.45, 19.55** Т/с **«ТЬМА».**
**10.40** Д/ф «МИЛЛИОН ВОПРОСОВ О ПРИРОДЕ».
**11.00** Х/ф **«НОВАЯ ЭРА».**
**12.55, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.30** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**15.45** «Мульт-парад».
**16.00** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.30** Х/ф **«ЗАРАЖЕНИЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«БЕГУЩИЙ В ЛАБИРИНТЕ».**
**23.00** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**

### СРЕДА, 1 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.50, 18.20, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.35, 15.55, 18.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«СПИРАЛЬ».**
**9.25, 19.55** Т/с **«ТЬМА».**
**10.15** «Законы привлекательности».
**11.05** Х/ф **«БЕГУЩИЙ В ЛАБИРИНТЕ».**
**13.00** «Доктор отвечает».
**13.05, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.35** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«ПРОСТАЯ ИСТОРИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** Цена недвижимости.
**21.15** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС. ИГРА ТЕНЕЙ».**
**23.20** Х/ф **«КИНГСМЕН. СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**

### ЧЕТВЕРГ, 2 АПРЕЛЯ

**7.00, 16.05, 19.45, 21.00, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.30, 16.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«КИНГСМЕН. СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**
**9.45, 19.50** Т/с **«ТЬМА».**
**10.35** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**11.00** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС. ИГРА ТЕНЕЙ».**
**13.15, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.40** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.15** «Мульт-парад».
**16.25** Х/ф **«НОЧНЫЕ ИГРЫ».**
**18.10** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ИСПЫТАНИЕ ОГНЕМ».**
**23.15** Х/ф **«ВО ВЛАСТИ СТИХИИ».**

### ПЯТНИЦА, 3 АПРЕЛЯ

**7.00, 16.00, 19.45, 21.00, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.30, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«МУМИЯ ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**9.45, 19.50** Т/с **«ТЬМА».**
**10.45** Д/ф «МИЛЛИОН ВОПРОСОВ О ПРИРОДЕ».
**11.00** Х/ф **«БЕГУЩИЙ В ЛАБИРИНТЕ. ИСПЫТАНИЕ ОГНЕМ».**
**13.10** «Доктор отвечает».
**13.15, 18.10** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.50** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Х/ф **«РАЙСКИЕ ХОЛМЫ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗОЛОТОЕ КОЛЬЦО».**
**23.30** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС».**

### СУББОТА, 4 АПРЕЛЯ

**7.00, 14.05, 18.25, 21.15, 1.50** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Волшебный меч».
**8.35, 15.35** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«МАЛЕСИФЕНТА».**
**10.25** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«А ШАРИК ВЕРНУЛСЯ…».**
**14.10** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**15.40** Х/ф **«НА ПУТИ К ГРЕЙС».**
**17.30** «Законы привлекательности».
**18.30** Х/ф **«ПОСЛЕДНЕЕ ПРИКЛЮЧЕНИЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«Я ТОЖЕ ЕГО ЛЮБЛЮ».**
**0.25** Х/ф **«НОЧНЫЕ ИГРЫ».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 5 АПРЕЛЯ

**7.00, 16.25, 19.00, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Иван царевич и серый волк».
**8.25, 16.20** «Приколы 13-й школы».
**8.30** Х/ф **«ПАСПОРТ».**
**10.15** «Готовь как шеф».
**10.40** «Законы привлекательности».
**11.35** Х/ф **«И ШАРИК ВЕРНУЛСЯ».**
**14.50** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.10** Т/с **«КАСЛ».**
**18.55** «Цена недвижимости».
**19.05** Х/ф **«ПЕРСОНАЛЬНЫЙ ПОКУПАТЕЛЬ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЛЕКАРСТВО ОТ СМЕРТИ».**
**23.35** Х/ф **«ПИК ДАНТЕ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 МАРТА

**6.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**10.00** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**12.10** Рядом со звездой.
**13.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**14.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**15.30** Новости БЖД.
**15.45** Х/ф **«НЕАДЕКВАТНЫЕ ЛЮДИ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.30** Майстэрства і фантазія.
**20.20** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО».**

### ВТОРНИК, 31 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 17.15** Мнения и факты.
**8.30** Мая Радзіма.
**8.50** Фрагменты истории.
**9.00** По правилам таможни.
**10.00** Реликвия: сохраненные ценности.
**12.00** Х/ф **«М+Ж».**
**14.00** Х/ф **«МОЁ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**15.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**18.50** Афиша.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**22.30** Мажорный лад.

### СРЕДА, 1 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00** Мая радзіма.
**7.15, 19.20** Гость в студии.
**8.00** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**10.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**13.00** Рядом со звездами.
**15.40** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Будьте здоровы.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 2 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 18.00** Будьте здоровы.
**8.30** Майстэрства і фантазія.
**10.50** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**12.10** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ».**
**14.10** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРО».**
**16.00** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ».**
**18.50** Афиша.
**19.30** Живые голоса истории.
**20.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**22.30** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 3 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00** Мнения и факты.
**7.30** Будьте здоровы.
**8.00** Мая радзіма.
**8.30, 17.25** Живые голоса истории.
**9.00** Протокол.
**12.00** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**13.30** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ».**
**15.35** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** По правилам таможни.
**20.30** Реликвия: сохраненные ценности.
**21.00** Гость в студии.
**22.30** Мажорный лад.

### СУББОТА, 4 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.30** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**10.05** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**12.10** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**
**14.20** Х/ф **«БАРМЭН».**
**15.50, 21.10** Новости БЖД.
**16.40** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.30, 21.25** Рядом со звездой.
**20.30** Живые голоса истории.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 5 АПРЕЛЯ

**6.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**8.20** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**10.25** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**12.40** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**
**14.20** Рядом со звездой.
**14.50** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**16.50** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО».**
**18.20** Х/ф **«БАБУШКА ЛЁГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**20.55** Х/ф **«АМЕЛИ».**

# нядзеля, 5 красавіка

## Беларусь 1

**6.25** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на праздник Входа Господня в Иерусалим.

**6.35** Х/ф **«НОВЫЙ МУЖ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ТРИ В ОДНОМ 3».**

**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.10** Х/ф **«МЕСТЬ КАК ЛЕКАРСТВО».**

**19.45** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ГОД СОБАКИ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.30** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.15, 19.35** Телебарометр.

**9.20** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**10.10** «Шерлоки». Детективное шоу.

**11.00** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.50** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**12.45** Экшн «Первый мститель: Другая война».

**14.55** «Ужин не нужен».

**15.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.25** Х/ф **«ИГРЫ РАЗУМА».**

**20.10** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ТЕЛЕВЕДУЩИЙ: ЛЕГЕНДА О РОНЕ БУРГУНДИ».**

**22.45** «Супержена». Реалити-шоу.

**23.35** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.35, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Дзяўчына без адрасу». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Запяканка рыбная.

**10.50** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Прадарадзены смех». Мастацкі фільм.

**14.00** «Апошні дзень». Наталля Гундарава.

**14.55** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**15.35** «Мініно». Мастацкі фільм [СТ].

**17.10** «Дыскатэка СССР». «Нас не догонят». Канцэрт.

**18.00** «Дзікае паляванне караля Стаха». Мастацкі фільм [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Праверка на дарогах». Мастацкі фільм.

**22.40** «Камертон». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Валерыя Арланава.

**23.05** «Тэатр у дэталях». Спектакль Тэатра-студыі кінаакцёра «Безымянная зорка».

**23.30** «Архітэктура Беларусі».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «Ы».**

**11.25** «Видели видео?».

**12.10** Т/с **«КАССИРШИ».**

**15.35** Премьера. Большой новый концерт Максима Галкина.

**16.20** Премьера. Большой новый концерт Максима Галкина Продолжение.

**18.25** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** Х/ф **«РАЙСКИЙ УГОЛОК».**

**23.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.30** «Что? Где? Когда?». Весенняя серия игр.

**0.40** «Про любовь».

## СТВ

**6.35, 1.45** «Живая тема».

**8.15** Документальный проект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 20.35** Документальный спецпроект.

**12.40, 13.40, 16.40** Т/с **«НЕИСПРАВИМЫЕ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Неделя спорта».

**22.45** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «МИЛЛИОН ВОПРОСОВ О ПРИРОДЕ».

**6.10** «БЕЛАРУСЬ СЕГОДНЯ».

**6.45, 7.35** МУЛЬТФИЛЬМЫ.

**7.05** «ИГРАЙ, ДУТАР».

**7.40** «КУЛЬТ/ТУРИЗМ».

**8.15** «ЕЩЕ ДЕШЕВЛЕ».

**8.45** «ВСЕМИРНЫЕ ИГРЫ РАЗУМА».

**9.25** «ФАЗЕНДАЛАЙФ».

**10.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«ВЫСШИЙ ПИЛОТАЖ».**

**16.00** ПОГОДА В МИРЕ.

**18.30, 0.00** ИТОГОВАЯ ПРОГРАММА «ВМЕСТЕ».

**21.30, 1.00** Т/с **«КРИК СОВЫ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «Истории ремонта».

**7.20** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.50** «Дачный ответ».

**12.50** «НашПотребНадзор».

**13.45** Истории спасения.

**14.10** Х/ф **«МОРСКИЕ ДЬЯВОЛЫ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.15** «Звезды сошлись».

**21.40** Ты не поверишь!

**22.45** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.15** Х/ф **«МАТЧ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СЧАСТЬЕ МОЖНО ДАРИТЬ».**

**10.15** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**11.05** «Устами младенца».

**11.55** «Сто к одному».

**12.45** ПРЕМЬЕРА. Всероссийский потребительский проект «Тест».

**13.45** ПРЕМЬЕРА. «Я не вдова». Расследование Леонида Закошанского.

**14.45** Х/ф **«ВЕСЕННЕЕ ОБОСТРЕНИЕ».**

**18.00, 21.45** Х/ф **«УПРАВДОМША».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**22.55** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.35** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

**0.50** ПРЕМЬЕРА. «Опасный вирус». Программа Наили Аскер-заде.

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Свадебный Переполох. **7.55** Забытое. **9.30** Код Да Винчи. **12.10** Ангелы и Демоны. **14.35** Эволюция. **16.30** Как украсть небоскрёб. **18.20** Матильда. **20.10** Капитан Филлипс. **22.40** Тристан и Изольда. **0.50** Мадам. **2.25** Невероятные приключения Факира. **3.55** Маска Зорро.

### TV1000 ACTION

**6.45** Реальные парни. **8.20** Возмездие. **10.20** Гонщик. **12.25** Шанхайский перевозчик. **14.05** Перевозчик: Наследие. **15.45** Другой мир. **17.55** Другой мир 2: Эволюция. **19.40** Другой мир: Пробуждение. **21.10** Другой мир: Восстание ликанов. **22.45** Анаконда. **0.15** Опасный квартал. **2.00** Денежный поезд. **3.45** Добро пожаловать в Zомбилэнд. **5.10** Паранормальное.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.45** Серые волки. **10.10** Элефант. **11.45** Временные трудности. **13.20** Кухня в Париже. **15.15** Кухня. Последняя битва. **17.20** Девушки бывают разные. **19.00** Домовой. **21.00, 5.30** Без границ. **22.50** Любовь с ограничениями. **1.05** Хочу в тюрьму. **3.10** Побег.

### ТВ3

**6.00, 8.45** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **9.15** «Новый день». **9.45, 10.45, 11.45** Т/с **«ХОРОШИЙ ДОКТОР». 12.45** Х/ф **«КИЛЛЕРЫ». 14.45** Х/ф **«ЗНАЧИТ, ВОЙНА». 16.45** Х/ф **«РЭД». 19.00** Х/ф **«ШПИОН». 21.15** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 23.30** «Последний герой. Зрители против звёзд». **0.45** Х/ф **«ХЭЛЛФЕСТ». 2.30, 3.00, 3.30, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«НЕ ВМЕСТЕ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«УХОДЯЩАЯ НАТУРА». 4.00** Т/с **«ПРОСТИТЬ НЕЛЬЗЯ РАССТАТЬСЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.40** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ». 2.50** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ». 4.35** Х/ф **«НАША RUSSIA. ЯЙЦА СУДЬБЫ». 6.15** Х/ф **«В ПОСТЕЛИ С ВИКТОРИЕЙ». 8.10** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ». 10.00** Х/ф **«ХОТ-ДОГ». 12.15** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО». 14.00** Х/ф **«ПРОСТУШКА». 15.55** Х/ф **«ПРОДВИНУТЫЙ». 17.35** Х/ф **«ВЫШИБАЛА». 19.15** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ». 21.10** Х/ф **«ЗАЩИТНЕГ». 23.00** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ОГОНЕК».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50** Каин. Исключение из правил. **1.45, 2.30, 3.15, 4.00** Ника. **5.05, 6.00, 7.00, 8.00** Жизнь только начинается. **9.00, 10.00, 11.05, 12.05, 13.05, 14.05, 15.10, 16.10, 17.15, 18.20, 19.20, 20.20** Жизнь и приключения Мишки Япончика. **21.25, 22.20, 23.15** Сводные судьбы.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35, 23.00** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05, 9.45, 10.55, 12.25, 14.15, 16.30, 18.30, 19.30, 20.55, 22.55, 23.55** Погодка. **9.10** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.10** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **11.00, 2.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.30** Шоу «ФОРМУЛА КРАСОТЫ». **12.30** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.20** Х/ф **«ПРИБЫТИЕ». 16.35** Приключения «СМУРФИКИ». **18.35** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **19.35, 1.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«МАЛЕНЬКАЯ ИТАЛИЯ». 0.00** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЕЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 3-й тур. Шахтер (Солигорск) – Неман (Гродно). **8.40** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 3-й тур. БАТЭ (Борисов) – Рух (Брест). **10.30** Вот это спорт! **10.40** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 3-й тур. Динамо (Брест) – Славия (Мозырь). **12.30** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Финал. Превью. **12.55** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Финал. Шестой матч.В перерывах Превью. **15.15** Большой спорт. **15.55** Спорт-центр. **17.55** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 3-й тур. Ислочь (Минский р-н) – ФК Слуцк. В перерыве Спорт-центр. **19.55** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **20.40** Пит-стоп. **21.10** Итоги недели. **21.55** Фактор силы. **22.25** Бокс. Всемирная суперсерия.

### EUROSPORT

**0.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Пхёнчхан-2018. **1.00** Велоспорт. «Тур по дорогам Фландрии»-2018. **2.30** Велоспорт. «Тур по дорогам Фландрии»-2019. **4.00, 7.00** Ралли. ERC. Обзор сезона. **5.00** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Обзор. **6.00** Автогонки. Формула Е. Марракеш. Обзор. **8.00** Автогонки. WTCR. Сепанг. Обзор. **8.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **9.30** Теннис. «Ролан Гаррос»-2019. 1/4 финала. Федерер – Вавринка. **11.30** Теннис. Australian Open. Третий круг. Федерер – Миллман. **13.00** Теннис. Australian Open. 1/4 финала. Федерер – Сандгрен. **14.30** Велоспорт. «Тур Фландрии»-2018. **16.15** Велоспорт. «Тур Фландрии»-2019. **18.00** Снукер. The Players Championship. Финал. **20.00** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Мужчины. Спринт. **21.00, 23.30** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Мужчины. Гонка преследования. **21.45** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Женщины. Спринт. **22.45** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Женщины. Гонка преследования.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 11.55** Возвращение легенды. **6.25, 7.55, 9.55, 13.40, 18.10** Стальные парни. **7.15, 12.25, 16.40** Автодело. **7.45, 9.35, 13.25, 16.20, 19.00, 23.35, 1.45, 4.00** Итоговые новости. **8.45, 4.15** Проверка на дороге. **9.05, 2.20** Сити-тестер. **10.45, 3.50** Наезд! **10.55, 20.15, 22.55** Приключения 4х4 в Иране. **11.35, 21.00, 5.15** Школа внедорожного вождения. **12.55, 1.20, 2.00** Гаражная команда. **14.30** Мото-тест. **14.50, 21.20, 23.50, 2.50, 5.30** 9 злобных водителей. **15.20, 3.15** Байки про байки. **16.00, 22.35** Аварийная ситуация. **17.40** Квадроциклы. **19.15, 4.30** Вторичка. **19.35** Поехали. **21.50** Вечер с Пикуленко. **0.25** Сделаем как надо. **4.40** Обновление. **4.50** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги.

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.20, 7.10, 7.55, 8.45** Чудовищный карп. **10.05, 2.45, 3.30** Австралийские охотники на лобстеров. **10.55, 11.40, 12.30, 13.20, 14.05, 14.55, 15.45, 16.30, 17.20, 18.05** Адские грузовики. **18.55, 19.45, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50, 23.35, 0.25, 1.10, 1.55** Австралийские золотоискатели. **4.20, 5.10** Перевозчики поездов.

### HISTORY

**6.00, 3.10, 3.35, 5.30** Невероятные изобретения. **6.30, 7.15, 9.25, 10.15, 11.00, 11.50, 12.40, 13.25, 14.15, 15.05, 15.50, 16.40, 17.30, 4.05, 4.45** Музейные тайны. **8.00, 8.30, 8.55** Вулканическая одиссея. **18.15, 19.10** Мифические существа. **20.05** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **21.00** Первые люди. **22.00, 22.55** Частная жизнь. **23.45, 0.35** Запретная история. **1.20, 2.15** Спецназ древнего мира.

### NATURE

**6.00, 23.05, 23.30, 23.55, 0.20** Природа в кадре. **6.25, 7.25, 8.25** Волшебная страна Оз. **9.25, 10.25** Дельфины – шпион в стае. **11.25, 12.20, 13.10, 14.05** Выживание в дикой природе. **15.00** Мир природы: познакомьтесь с обезьянами. **16.00** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **16.50** Тайная жизнь слонов. **17.50** Великие миграции в природе. **18.45** Удивительное семейство псовых. **19.35** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **20.30** Как выживают медведи. **21.25, 22.15** Суровая Австралия. **0.45** Жуткие, настоящие и странные. **1.35** Анатомия крупнейших животных. **2.25** Ветеринар из Йоркшира. **3.15, 3.35, 4.00, 4.25, 4.50, 5.15, 5.40** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 9.05** Инстинкт выживания. **6.25** Панорама 360 градусов: Разрушение объектов всемирного наследия. **7.35, 5.10** Научные глупости. **9.30** В поисках наследия. **10.15** Авто – SOS. **11.00** Фри-соло. **12.40** Баку: Скрытые тайны городов. **13.25** Затерянные тайны Кордовы. **14.15** Винни Джонс: самые крутые сюжеты о России. **16.30, 19.45** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **19.00, 22.10, 0.25, 4.25** Космос: возможные миры. **22.55** Космос: Пространство и время. **1.10** Осушить океан. **2.45** Поймать контрабандиста.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00, 14.00, 18.00, 22.05, 2.10** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.30, 14.30, 18.35** Донка против фидера. **7.00, 11.00, 23.05, 3.05** Россия заповедная. **7.30, 15.35** Вкусные рецепты рыболова. **8.00, 12.00, 16.05, 20.00, 0.05, 4.05** Ледовые тропы рыбалки. **8.30, 12.30, 16.30, 0.35, 4.35** Профессиональная рыболовная лига. **8.45, 12.45, 16.45, 4.50** Нож-помощник. **9.00** Охота с луком. **9.30, 13.30, 17.35, 21.35, 1.40, 5.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **11.30, 19.30, 3.35** Вкусные рецепты охотника. **13.00** Рыболовная Россия. **15.00** Охота по-фински. **17.05** Стратегия охоты с Сергеем Астаховым. **19.00** Горная охота на средне-кавказского и кубанского тура. **20.30** Мир рыболова. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.35, 2.40** Экстремальный фидер. **23.35** Камский спиннинг. **1.10** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **5.05** На охотничьей тропе.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.50, 14.00, 18.00, 22.15, 2.20** Большие идеи для маленького сада. **7.05, 10.55, 15.05, 19.05, 3.25** Ботаника с Павлом Стерховым. **7.30, 11.45, 15.55, 19.35, 23.50, 3.50** Безопасность. **8.00** Не просто суп! **8.20, 12.30, 0.35** Кашеварим. **8.35, 16.40, 20.35, 0.50, 4.45** Ваш агроном. **8.50** Фитоаптека. **9.20, 13.30, 1.35** 10 самых больших ошибок. **11.25** Кисельные берега. **12.10, 20.05, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **12.45** Флористика. **13.00, 16.55, 20.50, 1.10, 5.00** Декоративный огород. **15.35** Постное меню. **16.25, 20.20, 4.30** Доктор смузи. **17.25** Дачные радости. **21.20, 5.30** История одной культуры. **21.55** Чай вдвоем. **23.15** Тихая моя родина. **2.05** Наш румяный каравай.

# «Пернікі і маленькія кавалачкі цукру прадаваліся толькі на выбарах»

## Маладзечанка прыгадвае дзяцінства і працу на заводзе «Спадарожнік»

**Я нарадзілася ў 1940 годзе, 29 лютага, і жыла ў графскім маёнтку ў саўгасе Гарадзец Лужскага сельсавета Плiскага раёна. Тады гэта была Маладзечанская вобласць. Цяпер – Віцебшчына.**




Так выглядаў адзін з занядбаных будынкаў завода «Спадарожнік» ў 2008 годзе.

### Як жылі на печцы і ў склепе

Дарослыя мужчыны пайшлі на фронт, а мы, дзеці вайны, засталіся з мамамі, бабулямі, цёткамі. Запомніліся налёты варожых самалётаў на мястэчка. Снарады падалі ў раку Мнюту. Мы з кімсьці з дарослых сядзелі ў склепе на бульбе, засланай палавікам. А побач бегалі пацукі і мышы. На ноч ішлі ў дом, на цёплую печку, дзе грэліся да наступнага дня. Маразы былі моцныя, прамярзала ўсё.

Жыццё на печцы было лепшае, але таксама небяспечнае. Бо ноччу прыходзілі невядомыя. Яны пад выглядам партызанаў забіралі ўсё – хлеб, соль, малако, яйкі. На наступную ноч ішлі немцы. Ім таксама патрэбныя былі куры, сала, яйкі. А маці з бабулямі і дзецьмі заставалася мерзлая бульба, аб'едзеная мышамі і, можа, нейкі жоўты тлушч. Немаўлятам увогуле не было ніякай ежы, акрамя жаванай скарынкі хлеба, загорнутай у анучку, з маленькім кавалачкам цукру.

Немцы часам прыносілі каробачкі, падобныя да гуашавых фарбаў, і падавалі на печ. Але нам іх браць забаранялі. Калі ж падраслі, то гасцінец мы бралі. Гэта былі цукеркі – памадка.

Вясной 1945-га падгадаваныя дзеці басаног ішлі збіраць мерзлую бульбу, калі не было налётаў. Сабраную бульбу прамывалі ў рацэ сцюдзёнай вадой, а пасля пяклі чорныя бліны.

Вясной, перад заканчэннем вайны, вярнуўся пасля кантузіі ў нагу бацька. Брат да таго часу стаў яго памочнікам. Дапамагаў бацьку рамантаваць касілкі, плугі, сеялкі для патрэб саўгаса. А да лета шматлікія скалечаныя вайной мужчыны вярнуліся з фронту і са сваімі малымі памочнікамі ўзяліся аднаўляць разбураную гаспадарку.

### Цешыліся, што мужчыны вярнуліся з вайны

Памятаю дзень заканчэння вайны. Разам з радасцю за перамогу ў нашу сям'ю прыйшла вестка пра тое, што на вайне загінуў бацькаў брат. У яго засталіся дзве дачкі.

Пасля вайны мы, дзеці, пайшлі ў садок. Яго адкрылі на тэрыторыі гаспадаркі. Саўгас быў жывёлагадоўчы, таму дзяцей хутка адкармілі малаком і гароднінай, што вырошчвалі на палях. Разам з намі былі добрыя выхавальнікі, повары, нянечкі. Адна з маіх выхавальніц, **Людміла Салянік**, жыве ў Барані Аршанскага раёна.

У саўгасе было добрае кіраўніцтва. Працаваў свой спіртзавод, цэх, дзе рабілі сланечнікавы і льняны алей. Пліты жмыху, што заставаліся ад вытворчасці алею, нас вельмі падтрымалі. Гэта быў далікатэс, як цяпер піроожнае. У саўгасе ўсім была праца. Хто разлічваўся за карову, атрымаўшы ад саўгаса ў доўг, хто за бульбу, што далі для пасадкі. Жыццё ішло. Цешыліся, што мужчыны вярнуліся з вайны.

### Кілаграм хлеба – у адны рукі

Праз год пасля заканчэння вайны я пайшла ў першы клас Гарадзецкай школы. Першую настаўніцу звалі **Кацярына Іванаўна Эрдман**. У класе вучыліся дзеці розных узростаў. Разам са мной – брат з 1938 года нараджэння. Пасля ўрокаў мы беглі ў краму, каб купіць хлеб. У адны рукі давалі кілаграм. Крама і школа былі ў адным доме. Чарга стаяла на вуліцы, у памяшканне запускалі ўвечары, калі прывязуць хлеб. Добра, што нас было двое.

У маразы мы з братам чаргаваліся. Свабодна ў краме прадаваліся толькі соль, мыла, кілька, малако, мука, цукар вялізнымі кавалкамі. Пазней з'явіліся цукеркі-падушачкі, чорны мармелад на вагу, алей. Пернікі і звычайны цукар кавалачкамі прадаваліся толькі на выбарах. У 1947 годзе ў нас нарадзілася сястра. У 1950 – брат. Патрэб стала больш.

Пасля пачатковай школы пайшлі вучыцца ў пяты клас Лужскай школы. Падчас летніх канікулаў працавалі ў саўгасе: палівалі расаду, зграбалі сена, палолі. Добра памятаю суседнія з Лужкамі вёскі. У Васілёве жылі таленавітыя музыканты, Барсукі славіліся прыгожымі і разумнымі дзяўчатамі.

У сакавіку 1953 года на ўрок прыйшла настаўніца рускай мовы і сказала, што памёр Сталін. Народ пачаў задумвацца, што далей. Былі заклапочаныя, што не будзе штогадовага паніжэння цэн.

### Мянялася начальства, усё прыходзіла ў заняпад

Ішлі гады. Мяняліся генсекі. У наш прыгожы графскі маёнтак сталі прыязджаць нейкія сем'і. Мянялася начальства. Усё прыходзіла ў заняпад: і прыстань з лодкамі, і маслабойня, і клумба з півоняй. Тое, што пасляваенны дырэктар трымаў у парадку, прыезджыя раскралі.

Пасля школы маладыя людзі сталі пакідаць занядбаную гаспадарку: хто – у тэхнікум, хто – у войска. У 1956 годзе бацьку як лепшаму работніку саўгаса далі ўчастак пад новы дом. Пасля базавай школы я засталася ў саўгасе, пакуль споўніцца 18. Летам працавала на палявых. Зімой хадзіла на ферму. Пад'ём – у чатыры раніцы. Працавала да дзевяці вечара.

У 18 атрымала даведку на пашпарт і паехала працаваць у Барань Аршанскага раёна. Працавала паяльшчыцай, пасля – у друкарні, завочна вучылася ў Мінскім радыётэхнікуме. Разам з іншымі дзяўчатамі жыла ў інтэрнаце.

### Маладзечна падалося раем

У Маладзечна трапіла ў 1964 годзе. Мужа запрасілі на завод «Спадарожнік». Абяцалі працу і жыллё. Калі прыехалі паглядзець у Маладзечна, здавалася, трапілі ў рай. Столькі розных прадуктаў у крамах!

Кватэру ў Маладзечне было знайсці нялёгка. Але знайшлі ў прыватным сектары ў Здземелеве. Святла ў доме не было. Есці гатавалі на керагазе, на ім жа награвалі прас. Пасябравалі з гаспадыняй. Наступная кватэра была на Рачным завулку. Тут нарадзіўся сын. А праз год атрымалі аднапакаёўку. Паляпшалі жыллёвыя ўмовы ўжо за ўласны кошт.

Працавалі на «Спадарожніку» ў тры змены. Праца падабалася. Была выпрабавальнікам, майстрам, канструктарам. Маю шмат узнагарод, званне «Ветэран завода». 36 год на «Спадарожніку» прапрацавала як адзін дзень.

**Галіна ПОПІКАВА,**
**Маладзечна.**

---

● КАЛЯНДАР

**27 САКАВІКА**

**1891.** У Глыбокім нарадзіўся **Клаўдзі Дуж-Душэўскі**, беларускі архітэктар, выдавец, журналіст, грамадскі дзеяч. Лічыцца стваральнікам сцяга БНР. Памёр і пахаваны ў Коўне (Каўнасе) ў 1959 годзе.



**28 САКАВІКА**

**1930.** Канстанцінопаль і Ангора афіцыйна перайменаваныя ў Стамбул і Анкару.

**1992.** 14-я расійская армія ўвайшла ў Прыднястроўе.

**30 САКАВІКА**

**1888.** Нарадзіўся **Ян Цеханоўскі**, нацыянальны дзеяч Заходняй Беларусі, педагог, дырэктар Навагрудскай беларускай гімназіі. Пераследаваны польскімі ўладамі быў пераведзены на працу ў Ашмяны, дзе і памёр у 1938 годзе. Пахаваны ў Вільні.

**31 САКАВІКА**

**1931.** Нарадзілася **Тамара Тышкевіч** (Чашніцкі раён Віцебскай вобласці), савецкая лёгкаатлетка. Першая беларуска, якая стала алімпійскай чэмпіёнкай, выступаючы ў штурханні ядра. Памерла ў 1997 годзе.

**1 КРАСАВІКА**

**2002.** Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія ператвораная ў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт.

**2 КРАСАВІКА**

**1887.** Нарадзіўся **Алесь Гарун** (фальварак Новы Двор пад Мінскам), сапр. Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі. Беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч. Памёр у 1920 у Кракаве.



Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.

# Што трэба, каб атрымаць правы кіроўцы ў Германіі

**Як здаваць на правы ў Маладзечне, я ўжо больш-менш ведаю. І не проста ведаю, а адчуваю на ўласным досведзе.**




Фота t-online.de

Каб не было праблем ні з беларускай ДАІ, ні з нямецкай Verkehrspolizei, трэба ездзіць з правамі.

Заплаціўшы немалыя грошы, тры месяцы па суботах-нядзелях слухала правілы дарожнага руху. У рабочыя дні падчас абеду і не толькі (дзякуй за разуменне кіраўніку) бегала на аўтадром. Што ў выніку? Правілы ў ДАІ – з першага разу, аўтадром – з трэцяга. А кіраванне па горадзе – пакуль у працэсе. І за кожны этап – плаціць. А як атрымліваюць правы кіроўцы ў Германіі?

**Для гэтага яны таксама вучацца ў спецыяльных школах. Калі абралі школу – ідуць на пробны ўрок. Ён называецца Shnupperkurs.**

Для тэрміновай выдачы правоў працуюць школы, дзе навучаюцца паскорана. За тыдзень, займаючыся ад раніцы да вечара, праходзяць практыку і тэорыю і здаюць экзамен незалежным экспертам.

На выбар школы ўплывае размяшчэнне, цана і аб'ём заняткаў. Цана адной гадзіны, вучэбных матэрыялаў і абавязковых грашовых збораў вызначаюць самі школы. Таму сумы розныя.

## 20 еўра – за гадзіну кіравання

Спачатку слухачы аплачваюць базавы збор за тэорыю. Каштуе ад 50 да 400 еўра. Сума залежыць ад метаду навучання.

**У адных школах проста вызубрываюць білеты для здачы экзамену, у іншых падрабязна расказваюць правілы і тлумачаць нюансы.**

Па ходзе праходжання тэорыі выкладчык прапаноўвае пачаць практыку, звычайна праз чатыры-шэсць тыдняў. Тэрмін залежыць ад кандыдата ў кіроўцы. Пасля першага ўрока кіравання абавязкова плацяць яшчэ за 12 гадзін, прадугледжаных па законе. За экзамен плацяць асобна. У сярэднім адна гадзіна кіравання ў аўташколе каштуе 20 еўра.

## Якія дакументы трэба кандыдату ў кіроўцы ў Германіі

Кандыдаты ў кіроўцы перад тэарэтычнымі заняткамі або падчас іх збіраюць неабходныя дакументы. Пералік звычайна наступны:

**– тэст на зрок – праходзяць у краме оптыкі або ў акуліста. Каштуе каля сямі еўра і займае тры хвіліны. Па выніках выдаюць даведку, дзе напісана, трэба будучаму кіроўцы акуляры ці не. Калі трэба, то без іх не дапусцяць да практычнага экзамену;**

– чатыры фотаздымкі – робяць у фотаатэлье ці фотааўтамаце. Кошт пяць-дзесяць еўра. Калі пры кіраванні аўтамабілем трэба акуляры, лепш фатаграфавацца ў іх;

– заява пра тое, што вы жадаеце атрымаць правы. Яе падаюць у орган мясцовай улады. Дадаюць два фотаздымкі і каля 33 еўра. Правы зробяць праз некалькі дзён і пакінуць у архіве да канца навучання;

– даведка пра заканчэнне курсаў першай дапамогі.

## Тэорыя з практыкай

На тэарэтычныя заняткі адводзяць 14 гадзін. На іх будучых кіроўцаў рыхтуюць да здачы тэарэтычнага экзамену. Адбываецца гэта па-рознаму. У адных школах выкладчыкі чытаюць лекцыі па правілах дарожнага руху, у іншых выконваюць са слухачамі трэніровачныя заданні.

**Калі чалавек атрымлівае пасведчанне ўпершыню, ён павінны наездзіць 12 гадзін: тры гадзіны – ноччу, чатыры – па аўтабанах, пяць – як заўгодна.**

Выкладчык возіць курсанта па тых маршрутах, дзе будуць здаваць экзамен. Максімальная працягласць аднаго занятку – дзве гадзіны. Галоўныя элементы руху курсант адпрацоўвае шматлікімі паўтарэннямі.

### Выдаткі на пасведчанне кіроўцы ў Германіі (у еўра)

| | |
|---|---|
| Курс першай дапамогі | 30 |
| Праверка зроку | 6 |
| Фотаздымкі | 6-10 |
| Запыт на пасведчанне кіроўцы | 5,10 |
| Выраб пасведчання | 33,20 |
| Асноўны ўнёсак | 50-350 |
| Вучэбныя матэрыялы | 30-100 |
| Базавая гадзіна заняткаў | 20-40 |
| Гадзіна начных заняткаў і заняткаў на аўтабане | 30-60 |
| Тэарэтычны экзамен | 11,70 |
| Практычны экзамен | 94,94 |

Цэны сярэднія і залежаць ад аўташколы.

## Калі прыйшоў час экзаменаў

Пасля праходжання 14 гадзін тэорыі, курсант здае экзамен па правілах дарожнага руху. Экзамен праходзіць на планшэтах на любой мове. Пра гэта папярэджваюць у аўташколе пры падпісанні дагавора. Калі абраная мова не нямецкая, то кандыдаты ў кіроўцы прыходзяць у пункт выдачы правоў, тлумачаць свой выбар і плацяць дадатковыя 20 еўра. Кошт здачы тэарэтычнага экзамену – 80 еўра. Калі не здаў, праходзіш яшчэ два заняткі і пераздаеш. Здаваць тэорыю дазваляюць тры разы. Калі не атрымаецца, трэба чакаць тры месяцы.

**Калі пасля перапынку зноў не атрымаецца, мусіце прайсці медыка-псіхалагічнае абследаванне.**

Калі вынік станоўчы, даюць яшчэ два разы пераздаць тэорыю. Калі не – аб правах можна забыць. А калі ад першых тэарэтычных заняткаў прайшоў год, а экзамен не здадзены, навучанне пачынаюць нанова.

Практычны экзамен прымае незалежны экзаменатар. Ён сядзіць на заднім сядзенні і сочыць за курсантам. Калі экзамен не здадзены, курсант павінны прайсці яшчэ дзесяць гадзін кіравання. Абмежаванняў на колькасць не здадзеных экзаменаў па кіраванні няма.

Здача практычнага экзамену доўжыцца да 45 хвілін і каштуе каля ста еўра. У канцы задаюць адно тэарэтычнае пытанне на разуменне кіравання аўтамабілем. Калі экзамен здадзены, экзаменатар адразу выдае пасведчанне кіроўцы.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК паводле tupa-germania.ru.**

# Як чужыя людзі становяцца роднымі

*Заканчэнне. Пачатак у №12.*

**Успаміны пра тое, як жанчына дапамагала сям'і і стала яе часткай.**

Брыгіда мела, як яна называла, завядзёнку. Як нешта ўпершыню адбываецца ў гэтым годзе, то гэта «навіна», і таму трэба ладзіць супольны абед. Напрыклад, як першы раз назбірае шчаўя, грыбоў, ягад, накапае бульбы. Рабілі варэнікі, ягады з малаком.

**Такіх страў кожны раз напрыдумвае, гэта ж «навіна». Агульныя сталы былі і на яе святы – куццю, Каляды, Вялікдзень, Сёмуху, на Пятра рабіла сырнікі.**

Абеды былі без алкаголю, акрамя Калядаў і Вялікадня. На такія святы яна падымае тост, прыгаворваючы: «Ну, давай, брацішку, вып'ем па кілішку».

Колем кабанчыка, разам з ёй трымаем, а пасля дзелімся свежынай. Любілі пячы пірагі, гэта ўжо была мая ініцыятыва. Я расчыняла, замешвала, выкладвала на бляхі, а Брыгіда паліла печ, сачыла, каб напалілася іменна для пірагоў. А мой муж адказваў за тое, як спякуцца. І як ён толькі ўмеў асцярожна месцамі пераставіць, і газеткай каторы накрые. Трэба, каб не падгарэлі, але і былі не бляклыя, а жоўценькія і прыгожыя.

**Даставаў пірагі з печы, пырскаў вадой, накрываў ручніком і чакаў, пакуль астынуць. А дзеці былі выдатнымі афіцыянтамі.**

Брыгіда была добрым кулінарам. Хоць і жыла адна, але рабіла абеды з трох страў. Заўсёды ў печы былі супы – боршч, капуста, грыбная поліўка, тушаная капуста ці бульба, бабка з дзёртай бульбы, іншы раз катлеткі, печыва. На трэцяе рабіла напоі – каву з падсмажанага ячменю з малаком, гарбату з зёлак, а іншы раз проста са свежай галінкі вішнёвага дрэва.

Летам дзеці з ёй хадзілі па зёлкі, ведалі іх назвы. Як трапляліся цукеркі, то дзеці дзяліліся з усімі, абавязкова частавалі і цётку Брыгіду.

### Жылі як адно

Гартаю альбом. Абавязкова ўспомню, як яна пасярод дзятвы.

**А на гэтым здымку стаіць з нашай сям'ёй з усмешкай на твары, з кветачкай у руцэ. Яна і сама член нашай сям'і. Мы жылі як адно, клапаціліся адзін пра аднаго.**

Так і бачу яе ў дзень, пасля таго, як Валянціна Церашкова паляцела ў космас. Брыгіда забегла ў наш пакой з гучным «Ура!» і прадэкламавала: «У космас лятае! Караблі вядзе! Для вас, жанчыны, Няма страху нідзе!». І так радуецца.

**У яе ўсё было шчыра, ад сэрца. Калі радасць, то ўжо ад усёй душы. Адкрытасць, праўдзівасць – галоўныя рысы яе характару.**

У пачатку 70-х Брыгіда ўжо зусім занемагла. З сястрой са Шчучына яны былі ў добрай згодзе. Тая таксама ўжо жыла адна ў простым сялянскім доме з маленькім агародзікам. Муж Ядвігі памёр. Два сыны ўладкаваліся з сем'ямі. Адзін у Лідзе, другі ў Шчучыне.

**Ядвіга была сама дабрыня, заўсёды дзякавала, што мы даглядаем сястру. А мы ж проста дружна жылі разам.**

Калі Брыгіда хварэла, то ці печку прапаліш, ці гарбаты падасі, але ж гэта ў адным доме ўсё.

### Пасля калгаса дом стаў баракам

Ядвіга параіла, каб Брыгіда прадала дом і пераехала да яе ў Шчучын. Другога выйсця не было, так і зрабілі. Дом купіў калгас, зрабілі рамонт, знялі верхнія надбудовы, зрабілі доўгую страху. Дом набыў ніякі выгляд. Барак баракам. А мы перабраліся ў школьны дом, адтуль якраз выязджала сям'я настаўнікаў.

**Брыгіда прабыла ў сястры тры тыдні, а пасля прыязджае са Шчучына і просіцца, каб пусцілі пажыць.**

– Барысаўна, пабуду я ў вас, не магу там жыць. Дамы мне ўвесь свет засланілі, поля не бачу. Не ведаю, што робіцца на свеце, а ці сеюць, а ці жнуць, а ці косяць. Не магу ў горадзе жыць і ўсё.

**– Жывіце сабе, – кажу я. – Але ж сястры можа крыўдна будзе.**

– Хай сабе крыўдуе, галоўнае, мне тут дагаварыцца.

Праз дзень прыязджае Ядвіга, як я і прадбачыла. Яна слёзна пачала прасіць сястру вярнуцца, дваім жа будзе добра. А памаленьку прыйдзе прывыканне.

**Брыгіда паехала. Але мы ўвесь час трымалі сувязь. А калі памерла Брыгіда, падтрымлівалі стасункі з Ядвігай.**

Як мая дачка паступіла ў магілёўскае фармвучылішча, Брыгіда даслала ёй некалькі пісем. Пісала па-беларуску лацініцай.

Школу, дзе мы працавалі, закрылі, магазін разбурылі, а дамы апусцелі. Ужо там нічога няма.

**Яўгенія КУЛЕВІЧ,**
**Смаргонскі раён.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



**Здымак прыкладна 1970-х гадоў. На фота справа – аўтар тэкста Яўгенія разам з мужам Віталем, дачкой Ленай і сынам Віцем. Злева стаіць Брыгіда, чужая жанчына, якая стала роднай для гэтай сям'і.**

# «З-за каранавіруса наш круізны лайнер распусцілі»

**Маладзечанка Ганна Кішкурна збіралася правесці сёлета паўгода на круізным лайнеры. Дзяўчына ўжо атрымала кантракт і марыла, як будзе паспяваць і працаваць, і адпачываць на прасторах Атлантычнага акіяна.**




Фота забяспечанае Ганнай КІШКУРНА.

Маладзечанка Аня Кішкурна каля карабля ў Генуі

Каманда паехала лайнерам з Еўропы ў ЗША, і 1 красавіка рушыць у першы рэйс. Але па дарозе ў Нью-Ёрк стала вядома, што горад зачыніўся з-за пандэміі і забараняе спыняцца іншаземным караблям. Давялося паехаць у Маямі. Аня да апошняга спадзявалася, што ўсё будзе па плане, але там работнікаў распусцілі па дамах з-за каранавіруса.

### Як прайсці сумоўе

Аня цягам некалькіх год падарожнічае па розных краінах.

**У чэрвені мінулага года дзяўчына была ў Паўднёвай Карэі, калі даведалася пра сумоўе для круізнай кампаніі Virgin Voyages у Мінску. Аня ўсё кінула і паляцела.**

На сумоўі спачатку зрабілі прэзентацыю кампаніі і лайнера Scarlet Lady, а пасля размаўлялі з кожным прэтэндэнтам індывідуальна. На сустрэчу можна было прыйсці ў любым адзенні, з любым колерам валасоў, пірсінгам. І такая свабода зачапіла.

**– Я была расслабленая, і на сумоўі ўсё добра складвалася. Са мной паразмаўлялі пра жыццё. Калі ты ўлегцы, ненапружаны, то неяк усё само сабой складваецца.**

### Паехалі на недабудаваным караблі

Пасля спатрэбілася некалькі месяцаў на навучанне, падрыхтоўку патрэбных дакументаў, медыцынскую камісію і тэсты. Трэба было зрабіць візу, атрымаць сертыфікаты бяспекі. Аня прайшла марскую падрыхтоўку, праслухала курс па бяспецы. У выніку атрымала кантракт на працу афіцыянтам бара на шэсць месяцаў.

У пачатку года дзяўчына прыехала ў Геную, адкуль павінны быў адчаліць лайнер.

**У італьянскім порце стаялі некалькі тыдняў. Сабралася каля 1300 чалавек каманды, а карабель яшчэ на ўсю моц будавалі.**

Вакол персанал хадзіў у касках, спецыяльных касцюмах і абутку. У гэты час для работнікаў ладзілі шмат самых розных трэнінгаў, якія працягваліся і ў плаванні. Былі трэнінгі па ахове навакольнага асяроддзя, бяспецы, харасменце і іншыя.

**– Шчыра кажучы, я нават не ведала, куды мы едзем. Думала, рэйсы па Еўропе. Ужо на караблі ў сталоўцы разгаварыліся.**

А тут калегі кажуць пра Маямі. Я такая – у сэнсе Маямі? Яны мне: «Ну так, мы ж у Маямі едзем». Ды гэта ж проста мара майго жыцця – апынуцца ў Маямі!

Да жыцця на караблі было не так і лёгка прызвычаіцца. Часам укалыхвала, тады Аня хутчэй ляцела ў медыцынскі пункт. Адна таблетка – і ўсе сімптомы знятыя.

**Адно з самых яркіх уражанняў – шыкоўная ежа. Усё, акрамя алкаголю, для персаналу бясплатна.**

На караблі шмат рэстаранаў і бараў, а персаналу прапаноўвалі харчавацца ў сталовай са шведскім сталом:

– Нерэальна смачная ежа! Крэветкі, любое мяса, дэсерты. Асобна пункт, дзе пасты, дзе гамбургеры, дзе дэсерты – усё такая смаката, што растае ў роце. На нас тэставалі ежу, і гэта было нешта!

Падчас падарожжа даводзілася працаваць па зменах. Калі кепска сябе адчуваеш, можна схадзіць у медпункт і атрымаць даведку на дзень.

**Першыя дні было не проста разабрацца, дзе што знаходзіцца на караблі. 17 палубаў, тысячы пакояў. Але праз некалькі дзён усё запомнілася.**

Урэшце карабель стартаваў і рушыў у Вялікабрытанію. Прычым у гэты момант судна было недабудаванае.

– Я думаю, як так, яно ж недабудаванае, куды мы едзем? Аказалася, што некаторыя рэчы дараблялі проста падчас плавання. Падавалася нейкім чараўніцтвам, што на хаду так хутка ўсё вымалёўваецца і пераўтвараецца ў завершаную карціну.

### Нью-Ёрк закрылі

Пасля Вялікабрытаніі карабель павінны быў плыць у Нью-Ёрк. Але ў час плавання стала вядома пра разгар эпідэміі каранавіруса, і горад забараніў лайнерам спыняцца. Таму давялося плыць на поўдзень. Каманда яшчэ спадзявалася, што паездку не адменяць. Планавалі прышвартавацца ў Маямі, дзе зладзілі б адкрыццё карабля.

Аднак усё гэта так і не ўвасобілася. Персанал меў прыкладна тыдзень часу, пакуль усё вырашалася. У гэты час яны гулялі па пляжы, елі і бавілі час. А пасля ўсіх адпусцілі па дамах і сказалі пакуль пачакаць.

**Папярэдне запланавалі, што персанал вернецца на борт 7 чэрвеня і пачне працу, але і гэту дату могуць адкласці.**

У апошні дзень на караблі персанал тэставаў такую ежу і напоі, якія толькі хацелі.

– Як бы я хацела там застацца, нават без заробку! Я пабывала ў такіх чароўных месцах! А яшчэ столькі ўсяго паспяваеш за дзень – і папрацаваць, і адпачыць, і пагуляць.

**Аня расказвае, што праверку на каранавірус нідзе не рабілі – ні ў маскоўскім аэрапорце, ні ў мінскім.**

Дзяўчына вярнулася ў Маладзечна і чакае, калі зноў зможа зайсці на борт, каб займацца працай мары.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



Заўсёды глядзіце, што падпісваеце.

# Думалі, што падарунак

## Маладзечанская сям'я атрымала каструлі, за якія трэба заплаціць 3,5 тысячы рублёў

**У рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» звярнулася сям'я з Маладзечна – Сяргей, Пётр і Людміла Ш. Яны захацелі распавесці гісторыю, як схадзілі на прэзентацыю кухоннага начыння і даведаліся, што за «падарункі» ад гэтай кампаніі трэба заплаціць амаль 3,5 тысячы рублёў.**

### «Я не чытаў, што падпісваю»

Сям'ю Ш. запрасілі на прэзентацыю па тэлефоне. Сяргею на мабільны патэлефанавала прадстаўнік фірмы кухоннага начыння.

> – Запрасіла ўсёй сям'ёй, сказала абавязкова ўзяць пашпарты.

Сяргей распавёў, што гэта не першая прэзентацыя, куды ён прыходзіць разам з бацькамі. Пашпарты прасілі ўзяць не ўпершыню. Прэзентацыя адбылася ў сярэдзіне сакавіка ў Маладзечне.

Перад пачаткам мерапрыемства кожнаму з удзельнікаў наляпілі на куртку стыкер з іх прозвішчам. Як успамінаюць Ш., людзей прыйшло няшмат.

– У зале сядзелі людзі майго ўзросту – дзесьці за 40. І пенсіянеры былі таксама. Усяго чалавек 25, – падзяліўся Сяргей.

Аднак прэзентацыя доўжылася прыкладна дзве гадзіны.

– Чалавек, які расказваў пра іх фірму, выступаў вельмі доўга. Рэкламаваў каструлі, патэльні. А потым пачалі раздаваць падарункі. Ну, мы тады падумалі, што гэта былі падарункі, – сказала Людміла.

Пасля прэзентацыі пачаўся розыгрыш падарункаў. Прадстаўнік кампаніі разам з удзячнай выцягвалі з каструлі прозвішча людзей, якія знаходзіліся ў зале. Сяргей выйграў каструлі:

– Выцягнулі лісток з маім імем. Сказалі, што я выйграў каструлі. Я палічыў, што гэта падарунак, таму адразу падпісаў дакументы. Мае пашпартныя дадзеныя яны перапісалі да сябе. Я не чытаў, што падпісваў.

### Дома зразумелі, што за каструлі трэба плаціць

Сям'я вярнулася дадому, а Людміла вырашыла пачытаць дакументы, якія яе сын Сяргей падпісаў некалькі гадзін таму пасля прэзентацыі. Высветлілася, што за 10 каструль, якія, быццам, былі падарункам, трэба заплаціць каля 3,5 тысячы рублёў.

– Яны казалі, што гэта падарунак. Можа, мы не ўважліва слухалі і прапусцілі, што за іх трэба было плаціць, – распавядаў Пётр.

Людміла першай заўважыла пункт пра грошы і расказала пра гэта сыну.

> – Ведаеце, ад пачатку разумела, што не могуць такія каструлі аддаць бясплатна.

У дакументах, якія падпісаў Сяргей, знаходзіўся крэдытны дагавор. Ён за каструлі павінны быў заплаціць усяго 3,5 тысячы рублёў. У дагаворы таксама сказана, што можна плаціць часткамі – у растэрміноўку. Аднак у сям'і Ш. такіх грошай няма.

– Каструлі нядрэнныя, вельмі добрыя. У іх глядзіш як у люстэрка. Але няма ў нас гэтых трох тысяч рублёў, каб за іх заплаціць.

### Ці ёсць выйсце з сітуацыі?

Галоўны офіс кампаніі кухоннага начыння знаходзіцца ў Гродне. Прадстаўнікі фірмы ездзяць па Беларусі з прэзентацыямі, дзе і заключаюць падобныя кантракты на продаж сваёй прадукцыі.

Сяргей Ш. патэлефанаваў у офіс, каб высветліць, як можна вырашыць сітуацыю.

> **Яму распавялі, што каструлі можна вярнуць і не плаціць за гэта ні адной капейкі. Аднак трэба ўсё кухоннае начынне, што далі ім на прэзентацыі ў Маладзечне, прывезці ў Гродна.**

– Цягнікі з Маладзечна ў Гродна ходзяць кожны дзень, таму гэта зусім не праблема. І гэта каштуе не 3,5 тысячы. На тыдні ўжо вернем каструлі.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## У Беларусі запусцілі сайт афіцыйных геральдычных сімвалаў

24 сакавіка пачаў працаваць сайт «Афіцыйныя геральдычныя сімвалы Рэспублікі Беларусь». Аб гэтым паведамляе рэсурс «Архівы Беларусі».

На сайце можна абраць мову – беларускую ці рускую.

Сайт змяшчае матэрыялы пра дзяржаўныя сімвалы Беларусі, тэрытарыяльную геральдыку, сімволіку дзяржаўных органаў, палітычных партый, прафесійных саюзаў, грамадскіх аб'яднанняў.

**Настасся УТКІНА.**

## Ад 23 сакавіка ўводзяць абноўленыя банкноты 20 і 50 рублёў

Абноўленыя банкноты ўзору 2009 года наміналам Br20 і Br50 будуць уведзеныя ў абарот ад 23 сакавіка. Рашэнне прынялі пастановай праўлення Нацыянальнага банка ад 13 сакавіка 2020 года, паведамілі БЕЛТА ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў Нацбанка.

Ахоўны комплекс абноўленых банкнот Br20 і Br50 узмоцнены за кошт дадатковага вадзянога знака, больш шырокай ахоўнай ніткі, а для Br50 яшчэ і за кошт выявы з колеразменлівым эфектам.

У Нацбанку звярнулі ўвагу, што банкноты ўзору 2009 года наміналам Br20 і Br50, выпушчаныя ў 2016 годзе, застаюцца законным плацежным сродкам.

**Паводле belta.by.**

## Расія дазволіла толькі транзіт беларусаў, а не знаходжанне на тэрыторыі краіны

Урад Расіі прыняў пастанову ад 20 сакавіка, якая дазваляе толькі транзіт грамадзян Беларусі і іншых дзяржаў СНД праз тэрыторыю Расійскай Федэрацыі.

Уезд у Расію грамадзянам Беларусі, якія не маюць расійскага пасведчання на права жыхарства, для знаходжання на тэрыторыі РФ па-ранейшаму забаронены, заявілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе пасольства Беларусі ў Расіі.

Часовая забарона на ўезд у Расію ўведзеная ад 18 сакавіка да 1 мая праз пандэмію каранавіруснай інфекцыі.

**Паводле belta.by.**

## Мінадукацыі не будзе адмяняць школьныя лагеры на вясновых канікулах

Ва ўстановах адукацыі арганізуюць і будуць працаваць дзіцячыя лагеры. Бацькі могуць падаць заявы ва ўстаноўленым парадку.

Праграма знаходжання распрацоўваецца індывідуальна ў кожнай навучальнай установе з улікам усіх санітарна-прафілактычных мерапрыемстваў і рэкамендацый санэпідслужбы і Міністэрства аховы здароўя.

Вясновыя канікулы ў гэтым годзе будуць ад 30 сакавіка да 5 красавіка.

**Паводле прэс-службы Міністэрства адукацыі.**

## Белпошта прапанавала атрымлівацу пенсіі і аплачваць камуналку дома

Белпошта прапанавала атрымліваць пенсіі і плаціць камунальныя плацяжы дома.

Яна ўводзіць такую паслугу з мэтай стварэння дадатковай засцярогі ад распаўсюджвання вірусных інфекцый для пажылых людзей і асоб з хранічнымі захворваннямі.

Заяўку на выплату пенсіі (дапамогі) дома можна падаць праз кантакт-цэнтр РУП «Белпошта» па тэлефоне – 154.

**Паводле belpost.by.**

## Астраўчанкі перамаглі на творчым конкурсе выратавальнікаў

У Мінску падвялі вынікі конкурсу «Выратавальнікі вачамі дзяцей». Астраўчане – у ліку пераможцаў.

Гродзенскую вобласць прадставілі 43 работы, якія аказаліся лепшымі на раённым і рэгіянальным узроўнях. Змаглі прабіцца туды і астравецкія канкурсанты.

У чарговы раз гонар Астравеччыны абаранілі выхаванцы Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі. Саламяная машына **Паліны Базюк** і **Кацярыны Рыбак** заняла першае месца ў намінацыі «Мадэль пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікі».

**Паводле ostrovets.by.**

# Сем хакеістаў «Дынама-Маладзечна» дыскваліфікавалі на год за дамоўны матч

**23 сакавіка Федэрацыя хакея Беларусі паведаміла са спасылкай на Следчы камітэт: завершанае расследаванне па дамоўным матчы «Дынама-Маладзечна» – «Магілёў». У прадстаўленні СК папрасіў разабрацца ў прычынах і ўмовах, якія спрыялі здзяйсненню злачынства, а таксама ліквідаваць прычыны парушэнняў.**



Іваноў, Усціненка, Сырэй, Шэлег, Кучкін, Баярчук, Лісічкін павінны сплаціць штраф па 8100 рублёў кожны.

Фота прэс-службы «Дынама-Маладзечна».

### Хто ўдзельнічаў у дамоўнай гульні?

Федэрацыя прыняла рашэнні па ўсіх удзельніках таго матча. На пасяджэнні дысцыплінарнага камітэта федэрацыі хакея прысутнічалі старшы следчы па асабліва важных справах **Яўген Папоў**, дырэктар «Дынама-Маладзечна» **Ігар Нікалайчык** і начальнік каманды **Дзмітры Мельнік**.

Следчы камітэт прад'явіў абвінавачанні гульцам «Дынама» **Аляксею Іванову**, **Сяргею Шэлегу** і **Вячаславу Лісічкіну** – яны прынялі рашэнне за незаконнае ўзнагароджанне аказаць уплыў на вынік матча. Следчы камітэт лічыць, што Лісічкін і Шэлег прыцягнулі да супрацьпраўных дзеянняў **Паўла Баярчука**, **Станіслава Кучкіна** і **Аляксандра Сырэя**. У сваю чаргу Сырэй прыцягнуў да справы **Мікіту Усціненку**.

Гэтым хакеістам за дамоўны матч абяцалі суму ад 16 да 32 тысяч рублёў – у залежнасці ад выйгрышаў па стаўках.

Справу ў адносінах да Іванова, Усціненкі, Сырэя, Шэлега перадалі ў пракуратуру. Лісічкін, Баярчук і Кучкін раскаяліся, таму па іх справу закрылі.

Следчыя высветлілі, што трэнер «Дынама» **Ігар Крывашлык** асабіста ці праз трэціх асоб зрабіў 20 ставак на гульнях з удзелам маладзечанскай каманды. Таксама стала вядома, што пра дамоўны матч у дзень гульні даведаліся **Дзмітры Амбражэйчык**, **Мікіта Феакцістаў**, **Арцём Волкаў**. Яны адмовіліся дапамагаць, але не паведамілі пра дамоўны матч.

### Што вырашыў дысцыплінарны камітэт?

– Вынік матча за 12 лістапада паміж «Дынама-Маладзечна» і «Магілёвам» анулявалі;

– «Дынама» залічылі тэхнічнае паражэнне, а «Магілёву» – тэхнічную перамогу;

– выключылі ўсе статыстычныя паказчыкі гульцам абедзвюх камандаў, якіх яны дамагліся ў матчы;

– «Дынама» павінна сплаціць штраф у памеры 400 базавых велічынь (каля 10800 рублёў);

– гульцы Іваноў, Усціненка, Сырэй, Шэлег, Кучкін, Баярчук, Лісічкін павінны сплаціць штраф у памеры 300 базавых велічынь (8100 рублёў) кожны. Трэнер Ігар Крывашлык таксама павінны сплаціць штраф на такую ж суму.

– гульцы Амбражэйчык, Феакцістаў і Волкаў павінны сплаціць штраф у памеры 30 базавых велічынь (810 рублёў) кожны.

– Іванова, Усціненку, Сырэя, Шэлега, Кучкіна, Баярчука, Лісічкіна дыскваліфікавалі да 31 мая 2021 года, на адзін год. Ігара Крывашлыка дыскваліфікавалі назаўсёды.

Як паведамляе прэс-служба федэрацыі хакея, спартыўную дыскваліфікацыю нельга абскардзіць у судовым парадку, але яе можна скарацыць ці адмяніць па рашэнні дысцыплінарнага камітэта.

### Што кажа Следчы камітэт

Прэс-служба Следчага камітэта 24 сакавіка паведаміла, што Галоўнае ўпраўленне па расследаванні злачынстваў у сферы арганізаванай злачыннасці і карупцыі завяршыла расследаванне крымінальнай справы па дамоўным матчы паміж маладзечанскай і магілёўскай камандамі.

Следчыя даведаліся, што хакеістам прапанавалі грошы замежныя грамадзяне ў памеры да мільёна расійскіх рублёў (32 тысячы беларускіх рублёў).

Хакеісты не атрымалі грошай за дамоўны матч, таму што СК своечасова пачаў расследаванне.

У дачыненні да ініцыятараў дамоўнага матча крымінальная справа выдзеленая ў асобную справу для ажыццяўлення іх пераследу за мяжой Беларусі.

### Як развіваліся падзеі пасля «дзіўнай гульні»?

12 лістапада 2019 года «Дынама» згуляла супраць «Магілёва» на дамашняй пляцоўцы. Следчы камітэт Беларусі палічыў дадзеную гульню дамоўнай з-за дзіўных каціровак букмекерскіх кантор.

На думку экспертаў у сферы ставак, з якімі размаўлялі журналісты «Трибуны», дзіўныя каціроўкі ў замежных букмекерскіх канторах кажуць пра дамоўны характар матча.

Таксама спартыўныя журналісты Беларусі зрабілі выснову, што гульня была дамоўнай і па самых падзеях: маладзечанцы прайгралі, калі вялі ў ліку 5:1.

Напрыканцы лістапада Следчы камітэт зрабіў афіцыйную заяву, маўляў, наконт гэтага матча ідзе разбор. Федэрацыя хакея 18 лістапада паведаміла, што нічога не скажа да заканчэння следства. У той жа час «Дынама-Маладзечна» адхіліла ад гульняў Іванова, Сырэя і Шэлега. Начальнік каманды Дзмітры Мельнік казаў, што хакеістаў адхілілі з-за спартыўнага складніка, а не праз дамоўную гульню з «Магілёвам».



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Стварылі раённую федэрацыю футбола і знайшлі новага трэнера

У Маладзечне стварылі федэрацыю футбола Маладзечанскага раёна. Рашэнне прынялі на сходзе. Удзельнікі сходу прынялі і зацвердзілі статут грамадскага аб'яднання. У склад праўлення ўвайшлі **Уладзімір Галубко, Вольга Ціхановіч, Віталь Казяк, Аляксандр Вашкевіч, Рыгор Кароль, Зміцер Ротміраў, Мікалай Мятліцкі, Ігар Крук, Аляксандр Гармаза**. Старшынёй праўлення абралі Уладзіміра Галубко, намеснікам старшыні – Вольгу Ціхановіч.

Па інфармацыі афіцыйнай суполкі ФК «Маладзечна», у новым сезоне галоўным трэнерам каманды стане **Сяргей Дараховіч**. Дырэктарам клуба будзе Уладзімір Галубко, а адміністратарам – **Віталь Пачкоўскі**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дынамаўцы прайгралі «Юнацтву» 6:0 і не выйшлі ў фінал

Маладзечанскія хакеісты прайгралі чацверты матч «Юнацтву» ў паўфінале экстралігі.

Падапечныя галоўнага трэнера **Дзмітрыя Краўчанкі** саступілі 0:6. У паўфінальнай серыі дынамаўцы перамаглі толькі ў адной гульні.

Гэта быў апошні матч для маладзечанцаў у сезоне-2020/21. «Юнацтва» праходзіць у фінал экстраліг, дзе згуляе з пераможцам іншай паўфінальнай пары «Нёман» – «Шахцёр».

**Аддзел інфармацыі.**

## «Маладзечна» і «Астравец» згуляюць у другой лізе

Маладзечанскія футбалісты згуляюць у сезоне-2020 у другой лізе. На 23 сакавіка ўдзел у чэмпіянаце пацвердзіла 21 каманда. Такім чынам, з Мінскай вобласці прадстаўляць Маладзечанскі раён будзе толькі адна каманда. У чэмпіянат таксама заявілася каманда з Астраўца.

Сезон пачнецца 25 красавіка.

**Аддзел інфармацыі.**

## Алімпіяду-2020 могуць адкласці

Губернатар Токіа **Юрыкэ Койкэ** заявіла ў панядзелак, 23 сакавіка, што яна згодная з апошнімі каментарамі прэм'ер-міністра **Сіндзо Абэ** аб тым, што адтэрміноўка Алімпіяды не будзе выключаная ў якасці варыянту з-за ўспышкі каранавіруса.

Койкэ таксама адзначыла, што Алімпійскія гульні адмяняць не збіраюцца.

Губернатар заявіла на прэс-канферэнцыі, што спадзяецца на далейшыя адносіны з адпаведнымі афіцыйнымі асобамі для вырашэння пытанняў пра вёску спартсменаў і будучых жыхароў.

Алімпіяда-2020 у Токіа павінна прайсці ад 24 ліпеня да 9 жніўня.

**Паводле reuters.com.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. У засушлівае надвор'е нашы продкі маліліся Перуну, каб ён прыслаў дождж. У які дзень, па павер'ях, ён з большай ахвотай выконваў гэту просьбу?
4. Прычына, выпадак.
5. Аб'яднанне, саюз дзвюх або некалькіх дзяржаў пад уладай аднаго манарха.
8. Памылка, хіба.
10. Узяўшы ў рукі, нагрузіўшы на сябе, перамяшчаць, дастаўляць.
11. Вялікае, звычайна хаатычнае, зборышча людзей.
12. Жвавы, спрытны ў рухах, у дзеянні.
13. Навучальная ўстанова, якая ажыццяўляе агульную адукацыю і выхаванне маладога пакалення.
15. Шырокія прысады на гарадской вуліцы, звычайна пасярэдзіне яе.
17. Галоўнае прыроднае багацце Венесуэлы.
18. Выражае прасторавыя адносіны: ужываецца пры абазначэнні прадмета, асобы, на верхнюю частку якіх ці паверх якіх накіраванае дзеянне.
19. Аднойчы італьянскі комік Біянканэлі спрабаваў разыграць перад публікай вясёлую пантаміму з вялікай бутэлькай у руцэ. Спроба праваліліся, і з таго выпадку паходзіць фразеалагізм «бутэлька Біянканэлі», які азначае няўдачу. Як будзе «бутэлька» па-італьянску?
20. Густая сумесь тлушчу з рознымі лекавымі рэчывамі для ўціранняў ў скуру ці змазвання яе; мазь.
22. Пра пачуццё жалю, спагады.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Жаночы персанаж твора Уладзіміра Караткевіча «Ладдзя Роспачы».
2. У каталікоў – божая маці, багародзіца, а таксама яе скульптурны ці жывапісны партрэт.
6. Частка расліннага ці жывёльнага арганізма, якая выконвае пэўную функцыю.
7. Крайняя ступень раздражнення, гневу; раз'юшанасць.
9. Фігурны знак у сістэме ідэаграфічнага пісьма, які абазначае цэлае паняцце, склад або гук.
12. Мужчына, які не жаніўся пасля смерці жонкі.
14. Не абуты, з голымі нагамі.
15. Шчыльныя, на дзве палавіны, крытыя зверху вароты, якія закрываюць галоўны ўваход на тэрыторыю горада, завода, двара.
16. Галаўны ўбор, звычайна цёплы і мяккі.
21. Горад, у якім пачалася пандэмія «свінога грыпу» ў 2009 годзе.
23. Менавіта яго Карл Маркс назваў самым высакародным святым і мучанікам.
24. Праводзіць час за малаважным заняткам, у доўгіх гутарках.
25. Сталіца Маўрытаніі. У перакладзе з берберскай мовы азначае «месца, дзе дзьме вецер».
26. Удзячнасць.

## Адказы на крыжаванку з №12

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Басяк. 6. Парахня. 7. Туберкулёз. 8. Барада. 9. Наміб. 10. Дазатар. 12. Прэмія. 13. Магма. 16. Мост. 17. Дзеці. 18. Пазяханне. 20. Іспанка. 21. Камары. 25. Блохі. 26. Мітынг.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Дабрабыт. 2. Маска. 4. Оптымум. 5. Бекон. 6. Прабел. 11. Партупея. 13. Маёр. 14. Багаж. 15. Імжа. 17. Досвітак. 19. Язык. 22. Правіла. 23. Неаліт. 24. Бакалея.



## ● ГАРАСКОП НА 27 САКАВІКА – 2 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Вас могуць крытыкаваць іншыя. Хутчэй за ўсё, вам будзе непрыемна і крыўдна слухаць. Але паспрабуйце паглядзець на сябе вачыма тых, хто крытыкуе. Вы можаце адшукаць важныя падказкі і папрацаваць над сабой.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас напаткае шэраг каштоўных ідэй і мудрых думак і захочацца падзяліцца імі з іншымі. Але будзьце гатовыя, што не ўсе ўспрымуць іх з такім жа энтузіязмам, як і вы. Накіруйце энергію на тых, каму патрэбныя парада і падтрымка.



**БЛІЗНЯТЫ.** У вашых руках справы будуць проста кіпець. У нейкі момант будзе падавацца, што ім няма заканчэння. Але не губляйце напору, і пад канец тыдня вы самі здзівіцеся, што паспелі зрабіць так шмат.



**РАК.** Спрыяльны час, каб маніпуляваць іншымі людзьмі. Прычым вашых высілкаў асабліва і не спатрэбіцца, дасягаць жаданага вы зможаце даволі проста. Пастарайцеся, каб вашы мэты былі стваральныя.



**ЛЕЎ.** Вы будзеце схільныя перацягваць коўдру на сябе. Але пастарайцеся з клопатам ставіцца да іншых. Старайцеся ўключаць у задумы інтарэсы іншых людзей.



**ДЗЕВА.** Пастарайцеся праяўляць як мага больш гібкасці. Памятайце, што шляхоў да дасягнення мэтаў можа быць шмат. І калі адзін не прывёў да патрэбнага выніку, іншыя могуць прывесці адразу да іх.



**ШАЛІ.** Перыяд, калі вам захочацца расслабіцца і нідзе не ўдзельнічаць. Гэта пойдзе на карысць, таму што вы і нічога не зможаце змяніць. Падзеі будуць нібы праплываць перад вамі. Вазьміце час, каб адпачыць.



**СКАРПІЁН.** Зоркі спрыяюць у тым, каб вы пашырылі сферу ўплыву. Пакажыце сябе ў самым выгадным святле, і вашы перамогі запомняць надоўга. Дзякуючы поспехам вы сур'ёзна прасунецеся наперад у дасягненні мэтаў.



**СТРАЛЕЦ.** Вас могуць чакаць няпростыя размовы, якія будуць патрабаваць сур'ёзнай падрыхтоўкі. Дзякуючы гэтаму вы зможаце ў адказны момант пакласці на стол козыр, які прынясе вам перамогу.



**КАЗЯРОГ.** Ваша меркаванне па розных пытаннях будзе хвалявацца многіх. Пастарайцеся пазбягаць неабдуманых парадаў. Давайце толькі правераныя рэцэпты поспеху.



**ВАДАЛЕЙ.** Многія гатовы вас падтрымаць і натхніць. Карыстайцеся гэтай падтрымкай, прыміце парады ад шчырага сэрца. Магчыма, гэта якраз тое, чаго вам не хапае ў гэты час.



**РЫБЫ.** Будзьце ўважлівыя да ўсіх дробязяў. Калі будзеце прымаць рашэнні, дакладна пралічыце наступствы. Не выпускайце з віду рэчы, якія толькі на першы погляд падаюцца неістотнымі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | 5 | | | 4 | | 9 | |
| | | | 3 | | | 5 | 4 | |
| | | 4 | | 5 | | | 2 | 8 |
| 7 | | 2 | 5 | | | | | 3 |
| 3 | 8 | 6 | 7 | | | | | |
| | 4 | | | | | 7 | | 2 |
| 8 | | | | | | | 1 | 9 |
| | | 1 | 2 | | 9 | | | |
| | | | 1 | | | 6 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



Рэгіянальная газета. Rh.by



● #РГ25

## Таццяна Банковіч, мама ў адпачынку па доглядзе за дзіцем з Маладзечна:

# «Увага аўдыторыі на працягу 25 гадоў – паказчык прафесіяналізму»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначае 25-годдзе. Прымаем віншаванні і цёплыя словы ад нашай чытачкі маладзечанкі Таццяны Банковіч:**

– Віншуем з 25-годдзем вашу рэдакцыю. «Рэгіянальная газета» для нас, у першую чаргу, прыклад якаснай журналістыкі. Утрымліваць увагу аўдыторыі на працягу 25 гадоў – паказчык высокага прафесіяналізму. Вам пад сілу любыя тэмы і любыя жанры.

Будзьце і надалей заўсёды і ва ўсім на вышыні. Мы віншуем вас з юбілеем і жадаем, каб раніца маладзечанцаў заўсёды пачыналася з вашай газеты. Жадаем працвітання, яркіх актуальных матэрыялаў, заўсёды добрых навін на старонках і, вядома ж, павагі пастаянных чытачоў.

***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама посціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**



## Чытайце праз тыдзень:

- Як паступіць на бюджэт Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта і стаць анестэзіёлагам-рэаніматолагам? Як стаць лётчыкам у медыцыне? І чаму многія бліскучыя дактары з'язджаюць за мяжу? Пра ўсё гэта распавядзе герой публікацыі ў наступным нумары «РГ».

## 28 сакавіка, субота

**Вецер:** заходні, 3-4 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -14,5°С у 2013 годзе
Максімальная тэмпература +15,5°С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,1 мм у 2009 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Калі б у вас была магчымасць, то якую пластычную аперацыю вы зрабілі б?

**Надзея Бялецкая, гаспадыня, Вілейка:**
– Я выраўняла б нос.



**Ігар Асіповіч, мантажнік-вышыннік, Маладзечна:**
– Ніякую не рабіў бы.



**Алеся Арцем'ева, гаспадыня, Вілейка:**
– Я не хацела б у сабе нічога мяняць. Лічу, што кожны чалавек павінны любіць тое, што дала яму маці-прырода.



**Павел Жабко, юрыст, Валожын:**
– Хай будзе ўсё, як ёсць, таму не рабіў бы.



**Сяргей Дурко, спецыяліст па продажах, Маладзечна:**
– Не рабіў бы. Чалавеку не трэба пластыка.



**Віталія Круплевіч, гаспадыня, Вілейка:**
– Я сабе не хацела б рабіць пластычную аперацыю.



**Ганна Патук, выхавальніца, Маладзечна:**
– Зрабіла б па выдаленні маршчын.



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№13 (1300) 27.03.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 513. Падпісана ў друк у 9.00 26.03.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.